демократии — выборам, за кого собираются голосовать и т. д. Ойстен и Оге серьезно относились к своей задаче и честно пытались прояснить ситуацию. Но из этого не получилось ничего путного. Наши люди шарахались от камеры, как от чумы, и только одна смелая девушка с неподражаемой искренностью заявила: «Ну какое у меня может быть мнение? Мне ведь только 18!»

Зато у норвежцев состоялся разговор с человеком в форме, который возник ниоткуда, как только Ойстен и Оге начали снимать памятник Ленину на площади Независимости. На фоне чугунных ботинок вождя человек в форме доходчиво разъяснил, почему нужно прекратить съемку и стереть все записанное: он является лицом режимным и не должен быть в кадре. Товарищ проявил недюжинные технические познания и лично проследил, как именно удаляются отснятые материалы.

У меня как лица совершенно «не режимного» возникли в тот момент вполне закономерные вопросы. Если ты такой секретный и тебя нельзя снимать, то какого рожна ты сам выскакиваешь и лезешь под камеру? Или в нашей стране чугунный товарищ Ленин тоже стал режимным объектом? Но задавать их я все же не решился…

Пройдя от площади Независимости Ленина к Русскому театру, мы увидели необычное. На ступеньках беседовали мужчины в военной форме сороковых годов и женщины в соответствующих костюмах и с прическами того времени. Стояли раритетные машины «Эмка» и «Полуторка», а также ЗИС-110.

Как выяснилось, российские кинематографисты снимали художественный фильм о Василии Сталине, сыне отца всех народов. У Ойстена и Оге загорелись глаза: расспросить российских киношников о замысле фильма — это ведь так интересно! Но второй режиссер фильма, проконсультировавшись с первым и самым главным здесь, четко заявил, как отрезал: «Мы не можем давать интервью без согласования с нашим начальством, а оно — в Москве». Очевидно, над всем этим местом (включая «Володарку» с ее башней и колючей проволокой) витала тень генералиссимуса. Она надежно охраняла стабильность на вверенном ей участке.

А вот где был разгул демократии — так это на Комаровке! Площадь перед рынком выглядела неузнаваемо. «Картинка» что надо: многоцветье торговых рядов и развевающихся флагов: белых — «Белой Руси», трехцветных — БРСМ.

Оглушительно ревели динамики, транслируя песни народов СССР, коллективы в национальных костюмах исполняли грузинские, молдавские и, конечно, белорусские танцы. Динамики были расположены продуманно. Метров через пятьдесят от первых, ближе к сезонному рынку, участок площади оглашался ревом других динамиков, которые без малейших пауз транслировали «Лявониху» и другие польки, под которые крутились, как заведенные, молодые люди и стройные девушки в национальных костюмах. Рев был настолько мощным, что говорить можно было, только крича прямо в ухо. Звук, идущий из портативных мегафонов кампании «Говори правду», казался комариным писком.

Неприметный молодой человек крутился возле некляевского пикета, снимая всех, кто подходил и вступал в беседу. Когда на него направили камеру, он в свою очередь направил на нас свою, и сразу вспомнилось: «Я оглянулся посмотреть, не оглянулась ли она, чтоб посмотреть, не оглянулся ли я».

Норвежские коллеги с увлечением снимали. Они подошли к ровному строю БРСМовцев, которые смотрелись очень хорошо: ясноглазые, приветливые, в форме своей организации, со значками, с флагами на длинных удилищах. Лукомольцы очень доходчиво разъясняли иностранным корреспондентам суть происходящих событий и их демократическое значение. Но благость картинки вдруг распалась: растолкав рослых БРСМовцев, к объективу камеры прорвалась старушка и, потрясая кулачком, закричала что-то про проклятое начальство, которое о народе не думает совсем и пр. и пр. БРСМовцы вежливо переждали это неожиданное выступление и ровными, размеренными голосами продолжали говорить хорошие вещи, позитивные.

На территории открытого сезонного рынка мы наконец испытали несказанное облегчение: рев динамиков остался позади. Вокруг шла обычная, повседневная жизнь минчан: люди покупали овощи-фрукты, мясо-молоко и спешили к себе домой. Однако попытки расспросить их о житье-бытье опять ни к чему не привели: завидев оператора, они по широкой дуге огибали его, а





Photo.bymedia.net




если камера встречалась на пути, то люди отмахивались и, отвернув лица, спешили выбежать из кадра. Неужели у нас весь народ «режимный», и ему нельзя показывать свое лицо?

В день выборов мы с норвежцами решили выехать из столицы. Погода была мерзкая: сильный ветер сыпал в лицо мелким дождем. Но у шоссе, километрах в двадцати от Минска, стояли женщины и торговали чем бог послал: картошкой, морковкой, яблоками. В баночках предлагались соленья-грибочки, салатики домашние. В пластиковых бутылках — молоко.

На вопрос заезжих корреспондентов, проголосовали ли они сегодня, женщины сознательно ответили, что еще успеют, но обязательно-обязательно... Впрочем, отвечали только те, у кого мы вознамерились купить яблочки. Остальные, накинув капюшоны, отвернулись и отошли под сень густых сосен.

Избирательный участок, расположившийся в конторе местного сельскохозяйственного предприятия, встретил нас... задушевной лирической песней. В тесном коридоре лицом к двери стояла женщина и под фонограмму «минус один» исполняла нечто трогательное, берущее за душу. Правда, не было понятно, для кого: у стены сидели всего две девушки. Участок был пуст, если не считать членов комиссии и двух человек в форме: одного — в милицейской, другого — в общевойсковой. Товарищ старший лейтенант милиции, поинтересовавшись, кто такие пожаловали, уведомил: «Пойду, сообщу», — и взялся за телефон (или рацию, я не рассмотрел).

Председатель комиссии, понимая, что безлюдье участка совсем не символизирует праздник, со вздохом объяснил: «Дождь, погода плохая. Попозже распогодится — люди подтянутся». Но тут же, выйдя на крыльцо, вместе с помощником стал активно тыкать в кнопки телефонов. Как выяснилось, не зря. Небесная канцелярия смилостивилась: буквально через пятнадцать минут появились запыхавшиеся три женщины и двое мужчин.

Они чинно опускали листочки бюллетеней в прорезь урны, но на вопросы, знают ли того единственного кандидата, за которого проголосовали, ничего вразумительного ответить не смогли. И лишь на соседнем участке, где народу было побольше, одна совсем молодая девушка на прямой вопрос Ойстена: «А есть ли выбор, если кандидат — один?» — ответила не по годам зрело: «Конечно! Можно голосовать "за", а можно и "против"!» Правда, и она не смогла объяснить, за кого проголосовала только что.

Были еще встречи и интервью, но они свидетельствовали все о том же: страна пребывает в глубоком анабиозе. И это было самое главное впечатление. Когда я сообщил норвежским телевизионщикам, что состоится пресс-конференция с г-жой Ермошиной, они не стали готовить свою технику: это их не интересовало. Потому что они знали о ситуации из первоисточников. А слова г-жи Ермошиной растиражируют информационные агентства.

И г-жа Ермошина не подвела. Мы все узнали, что выборы не состоялись только на одном участке. На всех остальных все прошло успешно. Мы в этом и не сомневались. Не сомневаются сейчас и граждане Норвегии. Потому что норвежские репортеры честно выполнили свой долг и показали, как на самом деле все происходило.

А через два дня у соседнего со мной банка выросли первые очереди за валютой.

Праздник демократии закончился. Начались будни.

***Фото А. Германович***

# Сусветныя СМІ і мы

## У кантэксце 64-га Сусветнага газетнага кангрэса і 19-га Міжнароднага форуму рэдактараў



World Association of Newspapers and News Publishers

**Кангрэс і форум — адна падзея, а не дзве. Ці, кажучы трапнай рэкламнай прымаўкай, два ў адным. WAN-IFRA (Сусветная асацыяцыя газет і выдаўцоў навін) аб'ядноўвае болей за 800 тысяч друкаваных СМІ, 13 тысяч анлайн-выданняў і 3 тысячы кампаній са 120 краін свету.**



*Аляксей КАРОЛЬ, «Новы Час»*

### Фармат

Выдаўцы і журналісты разам — гэта лагічна: адна сфера дзейнасці, адзін інфармацыйны прадукт і набор інструментаў для яго вытворчасці. Мэты і задачы, што супадаюць, хаця і істотна адрозніваюцца: бізнес — для выдаўцоў, кантэнт — для рэдактараў і журналістаў. Аднак і тут вектары інтарэсаў сыходзяцца ў адной кропцы — на чытацкай аўдыторыі.

Маштаб кангрэса — больш за тысячу ўдзельнікаў са 103 краін свету з усіх кантынентаў. Найбольш журналістаў і выдаўцоў было ад Украіны (135) і Расіі (76). Прафесійны змест — абмен ідэямі, досведам і тэхналогіямі, асэнсаванне сябе ў сістэме каардынат сусветных СМІ, наладжванне сумесных праектаў. Палітычны прэстыж кангрэсаў WAN-IFRA, апрача ўсяго іншага, выяўляецца ў факце ўдзелу ў цырымоніі іх адкрыцця прэзідэнта той краіны, дзе адбываецца падзея.

Пазіцыя — адданасць прынцыпам дэмакратыі і свабоды слова, служэнне грамадству, а не ўладам і карпаратыўным групам. Менавіта з гэтай прычыны месцам правядзення кангрэса і форуму заўсёды абіраюцца толькі свабодныя краіны. Але ўсімі магчымымі сродкамі заахвочваецца ўдзел прадстаўнікоў незалежных СМІ з несвабодных краін. Галоўная прэмія WAN-IFRA называецца «Залатое пяро Свабоды». Яна не ўтрымлівае грашовага складніку, але мае выключную маральную вагу.

Сёлета лаўрэатам прэміі стала мексіканская журналістка і пісьменніца Анабель Эрнандэс, якая апублікавала серыю нарысаў і выдала кнігу пра злачынствы наркакартэляў, якія, на яе думку, у Мексіцы цалкам зрасліся з уладамі. У чуйнай цішыні зала слухала незвычайную па моцы слова і эмацыйнай напружанасці прамову Анабель. Ад рук наркамафіі ў Мексіцы з 2006 года загінулі 44 журналісты, у тым ліку 5 — сёлета.

Сярод лаўрэатаў «Залатога пяра» значыцца і Беларуская асацыяцыя журналістаў. У 2010 годзе ў сусветным газетным кангрэсе WAN-IFRA прымалі ўдзел два беларускія журналісты, у гэтым — сем.

### Свабода слова

Менавіта праблема абароны і пашырэння межаў свабоды слова і вызначае грамадскую вагу

кангрэса. Вострыя куты гэтай праблемы з відавочнасцю выявіліся і на сёлетнім кангрэсе ў Кіеве.

Падчас прывітальнай прамовы прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча ў зале ўзняліся больш за дзясятак украінскіх журналістаў з руху «Стоп цэнзуры!» з плакатамі супраць збівання рэпарцёраў ва Украіне, выдалення з кабельных сетак тэлеканала «TVi», закрытага суда над забойцамі журналіста Георгія Гангадзэ і ўзмацнення палітычнай цэнзуры на тэлебачанні. Да рэдактаркі «Украінскай праўды» (той самай газеты, дзе працаваў калісьці Гангадзэ) кінуўся ахоўнік і вырваў плакат. Бараніў жа ўкраінскую каляжанку, захіляючы сабой, беларускі журналіст Павел Шарамет, які апынуўся побач. Пазней арганізатары кангрэса выбачаліся за інцыдэнт, а кіраўніцтва дзяржаховы ўвогуле адхрышчвалася: маўляў, там працавалі прыватныя ахоўныя структуры.

Пакуль яшчэ, як тлумачылі беларускім калегам украінскія журналісты, наступ на дэмакратычныя правы ва Украіне носіць прыхаваны характар і не набыў незваротную спеласць. Палітычная сітуацыя пярэстая, а сіла супраціву, асабліва ў заходняй частцы Украіны, дастаткова моцная.

Ці не таму пра спрыянне свабодзе СМІ мусіў гаварыць рытуальныя словы з трыбуны кангрэса і Віктар Януковіч, а віцэ-прэзідэнт Украінскай асацыяцыі выдаўцоў перыядычнай прэсы Барыс Ложкін адпрэчваўся ад праўладнай ангажаванасці?

Свае параўнальныя фарбы ў палітру барацьбы за свабоду слова дадала сустрэча журналістаў незалежных СМІ з Беларусі, Гватэмалы, Бірмы (М'янмы), Зімбабвэ, Замбіі. Розныя краіны і кантыненты, адрозныя традыцыі і менталітэт, але дзіўнае падабенства ў тактыцы і метадах задушэння незалежных СМІ дыктатарскімі рэжымамі: напады на рэдакцыі, арышты, забарона газет, эканамічны ціск, выгнанне ў эміграцыю.

З пэўнымі, зразумела, мясцовымі асаблівасцямі. Так, офіс самай уплывовай газеты ў Зімбабвэ, якую выдаваў саратнік Мугабэ, узарвалі, калі яе галоўны рэдактар перайшоў у апазіцыю да прэзідэнта. Пасля некалькіх арыштаў і нападаў рэдактар уцёк з краіны і ўжо шмат год выдае газету за мяжой, тыражом ад 60 да 250 тысяч асобнікаў, і перапраўляе ў сваю краіну.




Але большасць эміgranцкіх СМІ працуе на свае краіны ў лічбавым фармаце. Дастаткова эфектыўна, з высокім ахопам карыстальнікаў. Знакам надзеі за нашым невясёлым сталом прагучала гісторыя журналіста з М'янмы, які толькі нядаўна, праз 24 гады эміграцыі, урэшце змог вярнуцца на радзіму, дзе рэжым пад ціскам унутраных і знешніх абставін змушаны быў скасаваць ці не ўсе абмежаванні на дзейнасць СМІ.

Тэма свабоды слова, прычым насуперак намаганням мадэратара Барыса Ложкіна, дастаткова моцна прагучала на заключнай сесіі кангрэса, якая называлася «Рынак новых магчымасцей: медыятрэнды ў краінах экс-СССР». Гэтая праблема папросту прарывалася на паверхню, бо якія ж магчымасці, калі няма свабоды? Змест дыскусіі будаваўся пераважна вакол сітуацыі ва Украіне і Расіі. Але лёгка накладаўся на сітуацыю ў Беларусі. Беларускія журналісты з сумам праводзілі паралелі: у іх суседзяў захавалася больш свабод, аднак якое пазнавальнае падабенства тэндэнцый! Ці хопіць калегам сіл і часу, каб спыніць наступ таталітарызму?

Як бы тое ні было, але рэжыму Януковіча ўдалося ўсё ж знівеляваць на кангрэсе тэмы дэмакратычнага развіцця СМІ і свабоды слова і выкарыстаць мерапрыемства на свой піяр. Як падзею, што нароўні з сусветным футбольным чэмпіянатам сведчыць пра прызнанне палітыкі ўкраінскага прэзідэнта сусветнай супольнасцю.

## Страчанае і набытае

Наша кропка адліку — небывалы чытацкі бум інтарэсу да разняволенай прэсы пачатку 1990-х, калі імгненна ўзніклі сотні новых выданняў, а тыражы асобных сігануглі за сто і болей тысяч экзэмпляраў, калі на тэлебачанні з'явіліся і збіралі каля экранаў тысячы людзей такія палітычныя перадачы, як «Пульс» Анатоля Майсені, «Праспект» Паўла Шарамета. Першы загінуў пры дзіўных абставінах у аўтамабільнай катастрофе. Другі, пасля арышту, быў вымушаны з'ехаць у Расію. Незалежная прэса пад рэпрэсіўным эканамічным і палітычным ціскам зменшылася да пары дзясяткаў агульнанацыянальных і рэгіянальных выданняў. Шмат журналістаў прайшлі праз затрыманні, арышты, штрафы і суды, некаторыя былі вымушаны эміграваць.

Так была спынена рэальная жывая тэндэнцыя станаўлення беларускай мадэлі якаснай журналістыкі. Прапагандысцкі ж архіпелаг некаторых буйных афіцыйных СМІ наогул адвярнуў, адвучыў ад цікавасці да СМІ ці не мільёны людзей. Гэта

культурная катастрофа, паўза ў дынаміцы развіцця, выпадзенне з сусветнай медыйнай прасторы.

Прыкладаў таго, чаго б мы маглі дасягнуць за мінулыя 18 гадоў, кангрэс нам прадэманстраваў нямала. Пакінем за дужкамі сусветна вядомыя брэнды накшталт «The Times» і «Bild», хаця іх досвед выключна цікавы і варты пераймання, пры пэўнай, зразумела, адаптацыі.

А вось прыклады з параўнальных па маштабе краін вельмі паказальныя. У прыватнасці, досвед шведскай газеты «Svenska Dagbladet», якая правяла рэарганізацыю і выйшла на тыраж у 400 тысяч экзэмпляраў, ці медыякампаніі «Verdens Gang» у Нарвегіі, што ўзнікла тры гады таму і ўжо выйшла ў лідары ў мабільным інтэрнэце, ці развіццё найбуйнейшай газеты на каталонскай мове ў Іспаніі.

Мы маглі б зараз быць абсалютна сучасным сегментам у агульнай еўрапейскай і глабальнай медыйнай прасторы. Аднак страты нашы, нягледзячы на драматычны маштаб, не з'яўляюцца непапраўнымі. Кангрэс даў нам параўнальны фон, які дазволіў прыйсці да высновы, што менавіта недзяржаўны медыясектар у Беларусі здолеў не адстаць ад сучасных тэндэнцый і дасягненняў у сусветнай медыяпрасторы. Насуперак рэпрэсіўнаму ціску, іншым разам ад безвыходнасці.

Некаторыя незалежныя газеты сышлі ў інтэрнэт. Прычым адбылося гэта на першай фазе фарміравання ў свеце новых тэхналогій, якія ў Беларусі наогул знаходзіліся ў эмбрыянальным стане. Улада не ўбачыла ў тым пагрозы. Але час ішоў, беларускія піянеры інтэрнэту працавалі, цягнуліся за цывілізаваным светам, у некаторых сваіх вынаходствах нават з апярэджаннем. Напрыклад, рэдакцыя закрытага ўладамі часопіса «Студэнцкая думка» прыдумала яго мультымедыйны варыянт на дысках, які на сённяшні дзень выходзіць у інтэрнэце пад назвай 34 mag.net.

Утрымаліся і друкаваныя выданні, заснаваўшы на пэўным этапе і свае інтэрнэт-версіі, якія развіваюцца зараз у сучасным мультымедыйным фармаце. Прарыў здзейсніла «Наша Ніва», прычым падвойны, заваяваўшы шырокую папулярнасць як беларускамоўны СМІ.

Парадаксальным чынам да адпаведнасці сучасным агульнасусветным тэндэнцыям друкаваныя беларускія незалежныя газеты вывеў і той факт, што праз ціск і недахоп сродкаў многія СМІ не змаглі выходзіць штодзённа, ператварыўшыся ў штотыднёвыя. І выступоўцы з розных краін адзначалі менавіта рост інтарэсу да штотыднёвікаў, газет, падобных да часопісаў, — з больш глыбокай інфармацыяй і аналізам, дзе менш навін, а болей ведаў. Вяртанне да класікі журналістыкі ў сукупнасці з навацыямі.

## Маршрутам у будучыню

На сённяшні дзень у Беларусі болей за чатыры мільёны карыстальнікаў інтэрнэту. Сярод іх, паводле рэйтынгу «Акавіты», сумарная сярэдняя штодзённая аўдыторыя асноўных незалежных інфармацыйных рэсурсаў складае больш за 350 тысяч унікальных наведвальнікаў. Агульны разавы тыраж ацалелых незалежных друкаваных газет, па звестках БАЖ, складае 150 тысяч асобнікаў. Улічым таксама чытачоў інтэрнэт-версій СМІ і наведвальнікаў мноства невялікіх сайтаў, якія не фіксуюцца «Акавітай». У выніку атрымліваецца больш за 700 тысяч чытачоў незалежных СМІ. Гэта 18–20 % ад агульнай інтэрнэт-аўдыторыі.

І мала, і шмат. Але відавочна, што гэта ўжо не маленькая выспачка, а ўнушальны плацдарм, тэрыторыя свабоднага слова. Утрымаць яго, паступова пашыраючы, незалежным СМІ ўдалося не толькі праз сваю прынцыповую дэмакратычную пазіцыю, але і праз якасны кантэнт. Адначасова гэта і рэзерв, тэрыторыя росту, што магчыма зноў жа толькі праз падтрыманне якасці інфармацыйнага прадукту. Праз выкарыстанне і інтэграцыю ўсіх вынайдзеных на сёння платформаў. Праз прывабны дызайн і добрую паліграфію. Праз стварэнне супольнасцяў вакол кожнага выдання, дзе чытач — не толькі карыстальнік, але і творца навін. Праз паскораную падачу інфармацыі. Праз тую самую тэхналогію SoLoMo (сацыяльныя, лакальныя, мабільныя СМІ). Пра ўсё гэта ішла гаворка ў Кіеве.

Беларускія незалежныя СМІ знаходзяцца ў рэчышчы працэсаў развіцця сусветных медыя. Усе сучасныя практыкі намі выкарыстоўваюцца. Проста мы вымушаны былі ісці іншай дарогай. Улады ўсімі сродкамі імкнуцца блакаваць камунікатыўныя каналы ад нашай выспы свабоднага слова да мацерыка — асноўнай масы беларускага насельніцтва, ад рабочых да чыноўнікаў. У тым і палягае галоўная праблема — чытачы свабодных СМІ застаюцца пакуль што класам у сабе.

Але ўжо адчуваецца імпульсіўны інтарэс да альтэрнатыўнай інфармацыі.

Захаванае і набытае ёсць дастатковай базай для прарыву, для выхаду на шырокі медыйны прастор пры ўмове дэмакратычных перамен.

Сёння для свабодных краін якасны кантэнт — гэта прадукт, які найлепш прадаецца, умова камерцыйнага поспеху. Для несвабодных — найперш прадукт гуманітарнай дапамогі, без якога грамадства не можа выжыць у якасці суб'екта гісторыі, а не аб'екта ідэалагічных маніпуляцый. І адначасова — інструмент перамен.

Дорогие читатели журнала «Абажур», известный американский тележурналист, продюсер компании «Alan Weiss Productions» Алан Вейс предлагает вам еще одну свою работу. В №1 (92) 2012 года была опубликована статья этого автора, в которой речь шла о культовом американском журнале комиксов «Mad» и его основателе и редакторе Альберте Фелдстейне. Экземпляры журнала «Абажур» вручены Алану, нью-йоркским журналистам американского радио, а также отправлены в штат Монтана Альберту Фелдстейну. Не владея языками стран Восточной Европы, американские журналисты тем не менее прекрасно, в нюансах осведомлены о политическом раскладе на постсоветском пространстве. БАЖ получила искренних друзей в лице Алана Вейса и его команды.

*Владимир Гутковский*

alan weiss productions

# Чего не следует носить в Чечне?

*Алан Вейс (Alan J. Weiss), США*

У каждого хотя бы раз в жизни бывает момент, когда хочется сказать: «Меня не волнует, сколько это будет стоить. Цена — не главное». Со мной произошел один их таких случаев.

Когда менеджеры по продажам магазина «Pretty Woman» сновали по торговому залу, подбирая мне идеальную зимнюю куртку, я и не предполагал, что ее конечная цена будет измеряться не в долларах. Куртка, которую я собрался купить, приблизилась к стоимости моей свободы, а возможно, даже жизни.

Я собирался в поездку на юг России, в Чечню — отколовшуюся республику, раздираемую гражданской войной. Американская еврейская благотворительная организация привлекла мою компанию для создания короткого документального фильма об усилиях, направленных на эвакуацию евреев, оказавшихся «запертыми» в эпицентре перестрелок между мусульманскими чеченскими и российскими войсками.



Это было в январе. И хотя я не знал точно, сколько по Цельсию будет в Чечне, мне представлялась холодная война, с ветрами, степями и бесконечными милями замороженной тундры. Россия была страной, где от генерала Зимы потерпели поражение самые хищные захватчики последних двух столетий: Наполеон и Гитлер. Само слово «Сибирь» было для меня (и не только) синонимом ледяного ада на земле.

То, что Чечня была географически ближе к знойной Греции, чем к морозной Сибири, не умаляло страха оказаться в положении доктора Живаго, с кристаллами льда на усах и бровях пробиравшегося через снега.

Я хотел быть готовым, как бойскаут. Поэтому, когда сотрудники отдела продаж предложили мне примерить на себя спортивные куртки самых последних моделей от Pillsbury Doughboy и Michelin Man, с достаточно теплым наполнителем, я почувствовал к этим вещам «любовь с первого взгляда».

То, что куртка была кричаще красной, как пожарная машина, казалось обоснованным. В конце концов, я путешествую по территории бывшего СССР. Не говоря уже о созданном у меня

пропагандой образе России, мне казалось, что я был бы просто в двух шагах от Северного полюса. И красная куртка представлялась мне знаковым атрибутом.

«Я возьму это!» — выпалил я, выхватывая кредитную карту быстрее, чем вы можете произнести «Красная площадь».

На следующий день наш спонсор пришел в аэропорт Кеннеди, чтобы проводить нас. Отведя меня в сторону, он прошептал: «Помните: вы отправляетесь в очень антисемитский край. Так что никому не говорите, что вы работаете на одну из еврейских организаций. Просто скажите, что работаете на американском телевидении».

С этими веселыми словами он помахал рукой на прощание, и наша команда полетела на восток.

После короткой остановки в Москве ночью самолет приземлился в Чечне. Аэропорт оказался на удивление темным. Как мы узнали позже, там было довольно сумрачно даже в дневное время. И не только темно, но и скучно, бесцветно. Будто некие злонамеренные силы высасывали из страны что-то очень жизненно важное. Улицы были пыльные, здания — серые, автомобили — ржавые, и, судя по вездесущим выхлопным газам, повсеместно отсутствовали каталитические нейтрализаторы. Я не мог выбросить из головы «Список Шиндлера» Спилберга: черно-белый мир, за исключением красного платья на одной маленькой девочке.

Евреи жили здесь на протяжении десятилетий в мире со своими соседями. Но теперь находились на политической обочине, и их положение было катастрофическим, особенно в столице, в городе Грозный. Война оставила много еврейских семей без крова. Бегство было опасно и трудно. Некоторые из евреев тайно покидали Чечню на машинах. Те, кто боялся военных контрольно-пропускных пунктов, пытались пройти пешком 50 миль по заснеженной сельской местности. Они до сих пор не верят, что им удалось уйти по бесконечно обстреливаемой земле. Они надеялись на лучшее: добраться до одного из работавших там домов американской еврейской организации, где было возможно получить питание, жилье и израильский паспорт.

Ализа Шенгар, посол Израиля в России, как-то сказала мне: «Для нас очень важно сказать евреям: “Ворота открыты — вы можете оставить это место. Пожалуйста, сделайте это сейчас, потому что кто знает, что случится завтра”».

Днем в Чечне был ураган. Но видимость не настолько снизилась, чтобы я не заметил, что, где бы мы ни проходили, люди поворачивали головы в нашу сторону. Сначала я предположил, что это любопытство при виде съемочной группы.

В конце концов, я начал подозревать, что привлекает внимание не большая видеокамера, а моя очень яркая красная куртка. Эта догадка подтвердилась чередой ежедневных обращений незнакомцев, которые подходили и шепотом осведомлялись, не хотел бы я продать куртку.

В наш последний день в Чечне в маленьком домике за пределами Грозного мы брали интервью у здешнего представителя еврейской благотворительной организации. Давайте назовем его Ури. У него была трудная работа: среди противоборствующих участников конфликта, который бушевал вокруг, он искал тех, кто не смог бежать из зоны военных действий, — старых и немощных. Он предоставлял им возможность получить документы и начать новую жизнь в Израиле.

Я спросил Ури, как он смог добиться того, чтобы эти люди могли покинуть зону военных действий. Он ответил, что помогли две вещи. Во-первых, американские доллары. «Это оперативные деньги, — объяснил Ури. — Я трачу денежные средства на взятки, я плачу наличными за помощь в приобретении одежды и всего необходимого, за медицину — за все».

Ури сказал, что вторым почти столь же существенным фактором является привычка местных госслужащих подчиняться власти. «Большинство здешних чиновников привыкли исполнять приказы. Так что я, словно бы кто-то важный, шел и отдавал им приказы. Они удивительно послушны», — заметил он.

После того как мы закончили снимать небольшое занятие, на котором в основном изучали иврит, нас пригласили на обед. Я был не голоден и потому оставил команду, взял камеру и вышел на улицу, чтобы сделать текстурные снимки города. Как оказалось, это довольно трудно, так как каждый раз, когда я направлял камеру на кого-то, кадр был испорчен: человек смотрел на меня. Уроженец Нью-Йорка, я привык к тому, что прохожие обычно игнорируют камеру или снимающего что-то человека. Очевидно, моя красная куртка привлекала слишком много внимания.

Но я старался, как при последней попытке окончить колледж ☺. Вдруг потрепанный белый автомобиль, взвизгнув тормозами, внезапно сделал резкий разворот и остановился передо мной. Похоже, я закончил колледж до остановки автомобиля...

Два очень высоких полицейских вышли из машины и подошли ко мне. Они говорили что-то на русском и чеченском, каждый из которых был для меня «греческим».

— Извините, я говорю только по-английски.

— Документы, — почти на английском языке потребовал тот, что подлиннее.

Я протянул ему паспорт.

— Кем работаете?

Правильно выстраивать предложение с точки зрения грамматики не было времени, так что я просто ответил:

— Американское телевидение.

Ответ полицейскому не понравился, повысив голос, он повторил:

— Кем работаете?

Шансы были не равны: двое с оружием против меня с камерой, и я дружелюбно ответил:

— Эй, мы все здесь работаем, товарищ, на американском телевидении.


Алан Вейс в той самой «опасной» куртке

Они переговаривались между собой. Не нужно было знать их язык, чтобы понять, что они не в восторге от моего ответа.

— Кем работаете? — Эдгар Аллан По нашел бы вдохновение в часто повторяемой фразе милиционера.

Именно тогда я заметил, что другой полицейский украдкой бросает взгляды на мою камеру.

— Позвольте мне показать вам, как она работает, — я поднял камеру, чтобы он мог посмотреть через окуляр. Играя с 40-кратным телеобъективом, милиционер улыбался, как ребенок. Но у его напарника как будто игла застряла под ногтем:

— Кем работаете??!

— Посмотрите, существуют телекомпании ABC TV, NBC, CBS TV, PBS... И другие... Вот я и работаю на американском телевидении.

Я думал, что это звучало убедительно. Но это было не так.

— Садись! — приказал тот, что длиннее, кивнув на ожидавшую на холостом ходу машину.

Каким-то образом я сразу понял, что это не очень хорошая идея — попасть в эту машину с камерой за 75 тысяч долларов, в городе, названия которого я даже не знал, в стране, где идет гражданская война. Ну уж нет!

Вдруг мне вспомнились слова Ури: «Они привыкли исполнять приказы... Они удивительно послушны».

У меня были секунды на выбор: или пан, или пропал. В конце концов, что я теряю, кроме того, что меня бросят на землю, забьют до полусмерти, утащат в бессознательном состоянии и запрут в темной дыре?

— Как вы смеете! — огрызнулся я. — Вы не знаете, кто я! И кем я работаю! Закончили на этом!

Я поставил копейку против рубля на удачу и коротким быстрым движением выбил мой паспорт из рук удивленного милиционера. Затем, повернувшись со всем оскорбленным достоинством, которое только я мог собрать, ушел, в любой момент ожидая столкновения с бывшим советским прикладом.

Десять футов. Двадцать метров. Тридцать... Удивительно, неужели вместо приклада я получу пули? Может быть, они дали мне уйти достаточно далеко, чтобы выглядело как попытка к бегству?.. Или просто не хотят стрелять с близкого расстояния, чтобы не быть забрызганными капиталистической кровью?.. Это была самая длинная прогулка в моей жизни. Но я наконец добрался до конца квартала. Поворачивая за угол, я украдкой бросил быстрый косой взгляд. Двое полицейских стояли там, где я оставил их, погруженные в жаркий спор. Я не горел желанием узнать точно, о чем они дискутировали, но снял этот красочный эпизод.

Когда я наконец добрался до дома, моя команда как раз заканчивала обед: «Мы оставили вам еду». «Спасибо, но я потерял аппетит».

Я чуть не потерял аппетит еще раз, когда, возвращаясь в США, наткнулся на статью в «The New York Times», где сообщалось о недавно распространившейся волне похищений людей в Чечне. В ситуации, когда местную экономику разрушила война, люди обратились к похищениям как к способу заработать средства к существованию. В этом принимали участие даже милиционеры. И самыми выгодными жертвами становились иностранцы. Логика похитителей была хладнокровно проста: если отправить посылкой ухо или палец чеченской семье, возможно, они смогут раздобыть несколько рублей. Но если отослать несколько частей тела в Америку, то экономические возможности становятся безграничными...

Я закончил статью... и отдал мою красную куртку в благотворительный фонд.

*Перевел Владимир Гутковский*

# Законы-то святы, да ответчики — супостаты

**«Часто задерживают деньги», «не заплатили», «гонорар располовинили»... Иногда о «привлекательности» того или иного издания коллеги отзываются предельно кратко. Что делать, если не выплатили гонорар: простить, забыть или обратиться в суд? Сколько стоит подать иск в суд?**



*Оксана ЯНОВСКАЯ*

В 2010 году у меня как-то одновременно возникли финансовые претензии к двум СМИ: глянцевому журналу, с которым успешно сотрудничала три года, и новому сайту, работа с которым длилась три месяца.

Поскольку распорядители финансов обоих изданий, что называется, «обрубили концы», съехав из офисов и поменяв номера телефонов, ничего не оставалось, как подать на них в суд.

К вопросу подошла профессионально: начала со сбора информации. Одна из коллег безапелляционно заявила: «И не думай! Ты публикуешься в оппозиционных изданиях, у тебя даже заявление не примут». Приняли — судья исключительно для протокола заседания поинтересовался местом работы.

Муж подруги подбадривал: «Дела о зарплатах автоматически выигрывают работники». Не «на автомате», конечно, но, забегая вперед, сообщаю: выиграла.

Полагая, что информация может оказаться полезной еще для кого-нибудь из коллег, расскажу о технических вопросах.

Итак, чтобы подать иск в суд, необходимо его составить. Такую услугу оказывают в адвокатских конторах. В ценах начала 2011 года гонорар адвоката за эту работу составлял 350 тысяч рублей. Практически пятая часть от того, что от «кинувших» меня редакций я намеревалась потребовать! Сумма одного моего иска была 82 000 рублей, второго — 1 600 000 рублей.



Побродив по сайтам судов (почему-то не минских), нашла образцы всех необходимых исков и очень ценную информацию: истец освобождается от уплаты госпошлины «за подачу исковых заявлений по спорам о взыскании платы за выполненную работу, оказанную услугу, созданный объект интеллектуальной собственности при выполнении работы по гражданско-правовым договорам».

Таким образом, мне стало ясно, что деньги потребуются только на бумагу, принтер, конверты и марки. Чтобы не тратить времени на поездку в суд, исковые заявления отправила по почте заказным письмом с уведомлением.

## Храните доказательства своей работы

К сожалению, отношения между редакцией и фрилансером нередко строятся на честном слове. И поэтому коллеги считают, что в суд не с чем идти. Однако в соответствии со статьей 26 Закона Республики Беларусь «Об авторском праве и смежных правах» авторский договор об использовании произведения в периодической

## Пять правил финансовой безопасности

Проанализировав обе свои ситуации, а также изучив опыт коллег, в том числе печальный, я составила свод правил финансовой безопасности журналиста (корректора, специалиста по верстке и т. д).

1. **Требуйте заключения договора!**
2. **Внимательно (очень внимательно) читайте договор!**
3. **Если нарушены сроки выплаты гонорара, не сдавайте материал в следующий номер! (Знаю одного редактора, который уверен, что «они обязательно напишут новые материалы, надеясь, что быстрее заплачу за старые».)**
4. **Как можно раньше обращайтесь в суд!* (Пока у нанимателя есть чем расплатиться. Первые иски обычно удовлетворяются, а на погашение последующих уже нет ни денежных средств, ни иного имущества.)**
5. **С особой осторожностью начинайте работу с недавно зарегистрированным изданием.**

Невыплата журналистам гонораров, как мне представляется, — только вершина айсберга. Не менее актуальны размеры окладов и ставок гонораров. Между тем у нас до сих пор почему-то «неловко» обсуждать меркантильные вопросы. Надеюсь, коллеги продолжат разговор на эту тему.

*Штатные работники могут обращаться в инспекцию труда.

печати может быть заключен в устной форме. Доказательством производственных отношений является опубликованный материал. Так вот, я приложила к заявлению ксерокопию публикации в журнале. Однако судья потребовал еще и подлинник.

Сумму гонорара я вписала со слов заместителя главного редактора. Ей даже пришлось прийти в суд в качестве свидетеля, потому что судья не сомневался, что мне должны заплатить за работу, но у него возник вопрос, сколько и почему именно такую сумму. К свидетельским показаниям я добавила акты приемки-сдачи работ за оплаченные ранее материалы и таким образом обосновала сумму иска.

Взаимоотношения с «кинувшим» меня сайтом были зафиксированы в договоре подряда. И когда я поняла, что деньги выплачивать мне не торопятся, то приложила максимум усилий, чтобы выловить владельца сайта и потребовать подписать акт приемки-сдачи работ. Иначе мне трудно было бы доказать, что кто-то мне что-то должен — ведь к моменту рассмотрения дела в суде сайт просто «умер».

К тому же до сих пор нет полной ясности относительно статуса разных сайтов: когда они приравниваются к СМИ, когда — нет.

Впрочем, скриншот письма, в котором владелец сайта сетовал, что должен, и клятвенно обещал рассчитаться, судья рассматривал как доказательство по делу. Но этого письма могло и не быть, так как ответчик старался как можно меньше оставлять следов. А ведь истец по гражданскому делу сам должен предоставить доказательства обоснованности претензий. Поэтому позволю дать совет: сохраняйте как можно больше вещдоков, указывающих на выполнение вами определенной работы, и архивируйте рабочую переписку.

## Тяжба — от слова «тяжело»

Выиграть суд — это даже не полдела, а гораздо меньше. Самое трудное — это добиться исполнения судебного решения. Во-первых, следует написать заявление судебному исполнителю. Во-вторых, этому исполнителю периодически стоит о себе напоминать.

А чтобы работа по иску по-настоящему завертелась, мне пришлось написать парочку жалоб.

Увы, как ни активизируй работу судебного исполнителя, но если ответчик гол как сокол или грамотно припрятал имущество, то истцу остаются только моральное удовлетворение от выигранного процесса и утешительная мысль о том, что пока иск не погашен, ответчик не съездит в отпуск или на шопинг за границу.

По прошествии времени я понимаю, что мои ответчики — из числа проблемных. По разным причинам. И чем больше проходит времени, тем призрачнее надежда получить сильно обесценившиеся деньги. Впрочем, в этом есть и доля моей «вины»: слишком медлила с обращением в суд.

Между тем не все так печально. Мне известны десятки примеров, когда стороны разрешали конфликтную ситуацию в досудебном порядке. И знаю историю коллеги, много лет работающей в режиме фриланс, которая выигрывала суды и получала причитающиеся ей деньги.

# Спачатку будзе слова...

**Вольныя крыніцы ёсць, а відавочны грамадскі голад на актуальную інфармацыю не ліквідаваны.**



*Генадзь Суднік*

Пару-тройку гадоў таму, нягледзячы на наяўнасць у некаторых рэгіёнах краіны маланакладных газетаў, што выходзілі за кошт энтузіязму і грамадзянскай адказнасці тамтэйшых актывістаў (некаторыя з якіх і зараз працягваюць выдатна рабіць сваю справу), Падняпроўскі наш край можна было смела прылічыць да тэрыторыі, «зачышчанай» ад вольнага слова як стараннямі ўлады, так і пэўнай нямогласцю апазіцыйных структураў і суполак.

«Зачыстка» працягваецца і зараз, але ж вольнае слова, як упартыя веснавыя расткі, прабіваецца ў тым ліку і намаганнямі зусім маладых прыхільнікаў сапраўднай журналістыкі.

## Апазіцыянер ці журналіст?

Амаль зніклыя «малыя газеткі», за выключэннем 3–4 з паўтара дзясятка, больш выяўлялі сябе (як і тыя, што выдаюцца сёння, за выключэннем, бадай што, крычаўскага «Вольнага горада» і бялыніцкай «Паходні») як друкаванкі, прызначаныя для аднадумцаў, а не як інфармацыйныя крыніцы, разлічаныя на шырокае чытацкае кола. Такімі былі раней, да зачысткі нашай інфармацыйнай тэрыторыі, «Ратуша», «Тыднёвік Магілёўскі», «УзГорак» (на шчасце, застаўся), «Магілёўскі Час», «Наш Магілёў»... Некаторыя з іх ператварыліся пазней у сайты.

Але электронныя версіі аказаліся слабейшыя за свае папяровыя папярэднікі ўжо па той прычыне, што з іх сышла аналітычная публіцыстыка, а навінная стракаата не адрозніваецца ўласным абліччам, і дакладна такія ж «навіны» можна сустрэць на афіцыйных сайтах і ў афіцыйных жа мясцовых выданнях. З вольных крыніцаў знікла тая адметнасць, для іх абавязковая, калі карыстальнікаў да іх можа прывабіць тэматычная і стылёвая эксклюзіўнасць. Таму вольныя крыніцы ёсць, а відавочны грамадскі голад на актуальную інфармацыю не ліквідаваны.

З уладай у нас, як гаворыцца, усё зразумела. А вось што тычыцца апазіцыйнай абыякавасці да наяўнасці і развіцця вольных рэгіянальных СМІ, то не без падставаў закрадваецца падазрэнне, што тут справа не толькі і не столькі ў адсутнасці ў апазіцыі сродкаў і рэсурсаў на арганізацыю і падтрыманне вольнай інфармацыйнай атмасферы ў рэгіёне, колькі ў неразуменні як аператыўнай, так і стратэгічнай важнасці, дзейснасці і эфектыўнасці такой атмасферы. Сітуацыю нікольки не ратуюць іхныя разнастайныя і разнабойныя друкаванкі, што з'яўляюцца ў перыяды беларускіх «выбараў» і здольныя, як гэта і было цягам апошняй электаральнай кампаніі, толькі яшчэ больш заблытаць людзей. Без навыку і досведу рэгулярнай зваротнай сувязі з носьбітамі, у прыватнасці, палітычнай інфармацыі, якую забяспечвалі б вольныя СМІ, людзі ўвогуле на гэтых выбарах не надта разумелі, што, чаму і як адбываецца і як сябе варта ў такой сітуацыі паводзіць. А таму ніхто не мае права прысабечваць на свой кошт той інтуітыўны байкот, якім выбарнікі ў большасці вялікіх і сярэдніх гарадоў адказалі на праўладную і апазіцыйную мітусню.

Я вяду гаворку менавіта пра неабходнасць з боку апазіцыі падтрымання інфармацыйнай атмасферы і таго, што можа яе забяспечыць. Варта абапірацца тут на прафесіяналаў. Не трэба замяняць апазіцыйнымі высілкамі журналістаў і журналістыку на той падставе, што, маўляў, «дзе ж у наш час возьмеш прафесіяналаў?». Сведчу і гарантую: у нашай мясцовай (і так па ўсёй краіне) суполцы сябраў БАЖ, вакол яе, побач з ёй сабраныя і гуртуюцца асобы, якія адказна і з надзеяй на запатрабаванасць абралі сабе ў наш час не самую, як вядома, лёгкую і зручную справу. Гэта зразумела і відавочна ўжо хаця б таму, што калі наша ўлада перыядычна хоць нечага і баіцца, то гэта — некантраляванай з яе боку інфармацыі. Здабыць такую, сфармаваць ва ўспрымальнай форме і распаўсюдзіць — гэта і ёсць прафесійнай журналісцкай працай.

І яшчэ важная рэч — журналіст не мае дачынення і не адказвае за тое, як, хто, з якімі наступствамі і з якой мэтай скарыстаецца гэтай інфармацыяй. Ён адказвае толькі за тое, каб інфармацыя была аб'ектыўнай і праўдзівай.

## Студэнцкі прарыў

На нашых жа дзяржаўных факультэтах журналістыкі, як падаецца, гэтаму не вучаць. І таму, у прыватнасці, на факультэце журналістыкі Магілёўскага ўніверсітэта пра БАЖ і ягоныя прафесійныя прыярытэты ніколі не ўзгадваюць выкладчыкі. Для іх ёсць толькі адзіна слушны Беларускі СЖ. Як распавядаюць студэнты, на факультэце і ў СЖ стаяць на тым, што журналіст павінен адказваць за тое, што паведамляе людзям, што ён ёсць дзяржаўнай асобай, што журналістыка — гэта складнік дзяржаўнай ідэалагічнай работы і г. д. Выглядае прыцягальна і нават узнёсла, калі мець на ўвазе, што пра такую «адказную для дзяржавы» ролю даводзіцца тым, каму зараз 18, 19, 20 гадоў і хто не чуў ні пра якія іншыя прафесійныя стандарты, прынятыя

ў цывілізаваным свеце. Аднак жа ў студэнцкай сям’і, як гэта было і будзе заўсёды, нягледзячы на адміністрацыйную пільнасць, абавязкова знаходзяцца тыя, каму мала пачутага на лекцыях і занятках. «Прасунутыя» студэнты знаходзяць магчымасці калі не для абвяржэння, то для выказвання сумневу ў нібыта бясспрэчных на першы погляд выкладчыцкіх (і галінова-міністэрскіх) штампах, фармулёўках і формулах.

Вось жа нейкім чынам пару гадоў таму пракралася і на наш магілёўскі факультэт такая «крамола»! Адтуль і пайшло... Будучыя калегі ад 3-га курса і далей пачалі чытаць самі і перадаваць з рук у рукі сябрам часопіс «Абажур». Сталі прасіцца (і трапляць!) на БАЖаўскія прафесійныя семінары і творчыя сустрэчы-дыспуты. Заснавалі і на працягу 2–3 семестраў уласным энтузіязмам выдавалі вольны друкаваны аркуш «Istfac», які карыстаўся цікавасцю з боку студэнтаў нават суседніх ВНУ, а таму — і пільнай увагай з боку рэктарата і дэканата. Але ж пасля заканчэння вучобы гэтыя завадатары выцягвання сябе з казённай навучэнскай багны ў свет дэмакратычных дасягненняў журналісцкай тэорыі разышліся-раз’ехаліся на штодзённыя прафесійныя практыкі. На шчасце, па большасці не ў самыя адданыя рэжыму СМІ, а каму пашанцавала, то і ўвогуле — у незалежныя (на жаль, такіх у родным рэгіёне зараз практычна няма).

Затое атмасфера вольнасці ў сценах МДУ і факультэта засталася. А сёлета натуральная для юных і дужых прага да «забароненага» выкрышталізавалася ў заснаванне (пры дапамозе і кансультатыўным удзеле старэйшых таварышаў) сайта http://farmats.by/. Што гэта, навошта і пра што — лепш за іх саміх не сказаць. А таму, як гаворыцца, даруйце за працяглую цытату з сайтавай рубрыкі «Пра нас». (З павагі да маладых калегаў падаю цытату на мове арыгінала, спадзеючыся, што ў хуткім часе ўвесь сайт, а не толькі ягоныя фрагменты, як цяпер, пяройдзе на беларускую.)

*«У “Свободного формата” несколько целей... Нам неважно, кто вы — активист БНФ или БРСМ, беспартийный рабочий или молодая мать, которая столкнулась с несправедливостью в поликлинике. Наша задача — дать высказаться вам, чтобы все знали о том, что происходит у нас в городе.*

*Дать возможность молодым людям попробовать себя в роли журналиста. Несмотря на то что в городе существует университет с отделением журналистики, мест, в которых студенты и школьники могут попрактиковаться в написании материалов, немного.*

*Максимально быстро и интересно освещать городские события. Мы уважаем наших читателей, потому не собираемся публиковать важные новости о количестве ДТП, пожаров и грабежей, присылаемые пресс-службами. Пробовать новые жанры, оттачивать мастерство в наиболее распространенных формах подачи новостей — наше кредо».*

Але якіх толькі запэўніванняў і абяцанкаў мы ў сваім жыцці не чулі, праўда?! Таму самае слушнае — не паверыць мне на слова, а зайсці на сайт асабіста. Зазначу толькі, што менавіта такое вось імкненне, што відавочна рэалізоўваецца на практыцы, выгодна і прыкметна адрознівае гэты сайт ад некаторых іншых газет, сайтаў і нават радыё і тэлебачання, што таксама дэкларуюць сябе ў нас як вольныя інфармацыйныя крыніцы. Але насамрэч нярэдка старанна, відавочна і амаль што фанабэрыста абыходзяць вострыя тэмы магілёўскага жыцця, хаваючыся (як, дарэчы, гэта робяць і дзяржаўныя СМІ) за імі ж прыдуманае апраўданне: маўляў, гэта менавіта нашы чытачы-слухачы-гледачы дыктуюць змест, тэматыку і манеру падачы матэрыялу.

Яно і сапраўды так бывае, але па такой дарозе можна зайсці далекавата ад абавязкаў прафесіі. А вось маладыя калегі, якія фармальна яшчэ і не ўваходзяць у прафесійны цэх, разумеюць: журналіст не той, хто «прыгожа выкладае» і лашчыць нечыя слых і зрок, а той, хто ўважліва бачыць і дакладна чуе сапраўднае жыццё і сумленна інфармуе пра гэта сваіх чытачоў-слухачоў-гледачоў. А ўжо яны як спажыўцы інфармацыі могуць выбраць, што ім рабіць: можа, і адкінуць якую газету, выйсці з сайта, выключыць тэлевізар...

...Маладым сваім калегам прызнаюся, што гэты артыкул не такі ўжо і ўзорны па параметрах тых жа сусветных стандартаў. У артыкуле ёсць адна як мінімум «недакладнасць». У ім няма імёнаў, прозвішчаў, спасылак на канкрэтныя даты і іншыя дэталі, якія робяць матэрыял пераканаўчым, доказным і даюць шанс на прыхільнае ўспрыняцце. Аднак аўтар артыкула зрабіў гэта свядома і толькі з той мэтай, каб не нашкодзіць адміністратарам, рэдактарам і аўтарам. (Дарэчы, тэорыя наконт неадказнасці журналіста за наступствы яго публікацый не распаўсюджваецца на сітуацыі, калі журналісцкае слова можа нанесці рэальную шкоду персанажу ці персанажам публікацый, а аўтар гэтага свядома і дакладна не хоча, не мае на мэце. Тут працуюць агульначалавечая маральнасць і прафесійная этыка.)

На жаль, такая вось наша рэчаіснасць. Не прыйшоў час адкрыцца гэтым маладым людзям. Ды яны не будуць у крыўдзе, бо працуюць, без высокіх слоў і амбіцый, якраз на тое, каб гэты час змяніць. І наблізіць той, дзе валадарыць будуць правы чалавека, у ліку якіх сярод першых — права на атрыманне сумленнай інфармацыі пра ўсё, што для людзей важна, патрэбна і цікава. Таму і паберажэм гэты наш журналісцкі рэзерв, да якога пры раскрыцці персонаў могуць быць выкарыстаныя з боку адміністрацый розных ступеняў, а тое і з іншых ахоўнадзяржаўных устаноў ціск і праслед, метады перавыхавання і заклікі да вяртання на «правільныя грамадзянскія пазіцыі»... Вакол маладых людзей ужо ходзіць нейкі намеснік дэкана з пытаннямі: «А не ведаеце, хто працуе на сайце? А ці не скажаце, хто даў на яго стварэнне грошы?»

Паберажэм людзей! Але і скажам ім, хаця і завочна: дзякуй, нашы юныя калегі! Давайце хутчэй вучыцеся і прыходзьце са сваімі маладымі сіламі і светлым розумам на падмогу нашай вольнай і сумленнай беларускай журналістыцы, якая — можа, я наіўны, даруйце, — адна толькі і здольная забяспечыць дасягненне ўсіх іншых нашых нацыянальных намераў і мэтаў.

Ад адраджэння краіны да яе паўнавартаснага вяртання ў сучасную цывілізацыю. З усім тым, што, у сваю чаргу, абавязкова прыйдзе за гэтым. А менавіта з дэмакратыяй, падзельнай уладай, рынкам, дабрабытам, рэалізацыйнымі магчымасцямі для кожнага чалавека...

Ну вы самі ведаеце!.. Але спачатку будзе — слова.

**Шэсць гадоў таму я пачала афіцыйна працаваць у недзяржаўнай прэсе. Да гэтага легальна працавала ў прэсе дзяржаўнай і неафіцыйна — у недзяржаўнай, мясцовым інтэрнэт-выданні, якое сканала неяк нечакана, ціха і незаўважна. Але выданне тое было выдатнай стартавай пляцоўкай для многіх цяперашніх беларускіх журналістаў. А з дзяржаўнай газеты мяне выгналі.**

# З жыцця рэгіянальнага журналіста



*Алена ГЕРМАНОВІЧ*

Напэўна, таму што да мяне панадзіўся хадзіць нейкі чалавек, Дзмітрый Васільевіч, ці што, з чырвоным пасведчаннем з УКДБ. А галоўнаму рэдактару раёнкі гэта не падабалася. І рэдактар вырашыў пазбавіцца ад мяне, спыніць свае страхі малой кроўю, так бы мовіць. Каб я не сабрала ім усім на галаву гарачае вуголле.

Нічога страшнага. Нават добра, што мяне выгналі тады. Там было сумна, у той рэдакцыі. Менавіта ад страшнага, цягучага, пакутлівага суму мы і пачалі з калегам пісаць падпольна на розныя незалежныя сайты. А рэдактар, напэўна, таксама ад суму пачаў нелегальна займацца іншымі справамі. Усё ж весялей, чым у мільён сёмы раз пісаць загалоўкі «Работы весці ў комплексе», «Задачы пастаўлены», «Чалавек сваёй справы», а кожны верасень — «Хвала рукам, што пахнуць хлебам!». Усё, што ні робіцца, — добра. Блага, калі нічога не робіцца.




Звычайна мы пішам пра іншых. А пра сябе — што пісаць? Аўтабіяграфія змесціцца і ў тысячу сімвалаў: нарадзілася, вучылася, пайшла працаваць, памерла, закапалі, далі ордэн пасмяротна. Назвалі яе імем бульбасховішча ў Клецкім раёне. У лепшым выпадку.

Я пішу гэты артыкул вечарам у нядзелю. Людзі не вераць — і правільна! — што ў нядзелю ў журналістаў можа быць выходны ці нейкія непрацоўныя справы. Як і ноччу. Часам я ўключаю раніцай мабільны і бачу, што ў тры ночы мне нехта тэлефанаваў. І ў гадзіну ночы — іншы нумар. Гэта так мяне цешыць! Хіба не файна, што менавіта табе тэлефануюць

ноччу малазнаёмыя людзі, калі нешта здараецца?

Сёння раніцай была на апазіцыйным сходзе, потым пісала пра гэта навіну, потым на Імшы ў касцёле думала пра старую беларускую рытуальную гульню ў абранне адзінага кандыдата і пра тое, чаго прыязджаў сёння біскуп. Ну, натуральна, і пра выратаванне душы. Не ведаю. Ні пра адзінага, ні пра выратаванне душы.




Потым мне тэлефанавала адна жанчына, яна мелася быць гераіняй майго матэрыялу, але так і не стала. Відаць, не быць ёй гераіняй артыкула — так наканавана лёсам. Як і мне не надрукаваць той матэрыял, пяцьдзясят сем разоў перароблены. Яна піла мне кроў (тое не так, гэта не гэтак), і, урэшце, калі ў пяцьдзясят восьмы раз усё з ёй узгаднілі і разышліся, задаволеныя адна адной, яна патэлефанавала праз паўгадзіны, выбачалася, але сказала, што матэрыял друкаваць не хоча. Хацела — ды перахацела. Хо, файна! Чатыры дні і колькі гадзінаў дарма. Нічога страшнага. Затое які досвед! Колькі паперак, рашэнняў судоў, артыкулаў Грамадзянскага і Жыллёвага кодэксаў я прачытала, колькі адказаў з пракуратуры, Вярхоўнага Суда і нават Саюза жанчын. Здавалася б, пайсці мне зараз у суд адвакатам ці пракурорам — гаварыла б там пры разглядзе грамадзянскіх справаў як па пісаным.

Потым патэлефанаваў адзін знаёмы, спецыяліст па лацінаамерыканскіх рэвалюцыях, вельмі цікавы чалавек. Прасіў мяне знайсці ў інтэрнэце палітычныя песні лацінаамерыканскіх (сальвадорскіх, гватэмальскіх, чылійскіх, перуанскіх) гуртоў, якія былі папулярныя ў 1970-я гады. Ну праўда, цікава! А як ён мне за дзень да гэтага чатыры гадзіны распавядаў пра тыя рэвалюцыі! Я проста толькі рот разяўляла — так цікава! Ноччу мне сніліся Эрнеста Чэ Гевара, і Альендэ, і Луіс Карвалан пад песні Віктара Хары, і гурту «Кілапаюн», і Наталі Кардон. Яны ўручалі мне зброю ці бралі ў палон? Недзе стралялі. Слухайце, ну дзе, на якой працы можна сустрэць такую безліч неверагодных, цікавых людзей? Не людзі — проста падарунак лёсу, я вам кажу.

Пазаўчора я сустракалася яшчэ з адным, здаецца, левым ці анархістам, жонка якога сядзіць у нас у турме. Не, не за перакананні, так проста, пасадзілі. Тры дні таму была на судзе: чалавек незаконна адседзеў, потым яго апраўдалі, зараз ён патрабуе кампенсацыі. А вартаўнік дзяржаўных грошай (казны) кажа, што дзяржава не згодная выплачваць кампенсацыю: маўляў, пасядзеў — нічога страшнага, выпусцілі ж урэшце, хай дзякуе і за тое.

Нарэшце, да справы. Мне не даюць афіцыйную інфармацыю ў розных там абласных і гарадскіх выканкамах ці іншых інстанцыях. Яшчэ, можа, некалькі гадоў таму я б заплакала і зарыдала, пракляла б лёс ці выпіла трохі з гора. І, размазваючы слёзы, скардзілася б сябрам: «Э, уяўляеш, я такая зайшла ў кабінет, а тая мымра кажа: «Без каментарыяў!» Ну ўяві, га? Ну ці можна так? Як жа жыць, як? Я пісаць хачу! А мне не даюць!» Сябры б глядзелі спачувальна і гладзілі па галаве.

Не давалі тады, не даюць і зараз. Але не можаш змяніць сітуацыю — змяні стаўленне. Не даюць — а навошта і прасіць? Ну што такое могуць там даць, чаго нельга самому недзе даведацца ці ўзяць? Зараз жа ёсць інтэрнэт, многія ўстановы, выканкамы, падатковыя інспекцыі, санстанцыі



маюць свае сайты. Канечне, абы-якія. Але пашукаць — дык можна шмат чаго цікавага знайсці.

А можна змагацца з чыноўнікамі. Праўда, трэба валодаць тэарэтычнымі (Закон аб СМІ і ўсякае такое) і практычнымі (псіхалогія і акцёрскае майстэрства) ведамі. Я не даю тут парадаў, я проста дзялюся сваім досведам. Напрыклад, адзін прэсавы сакратар баіцца свайго ценю. З такім можна пасварыцца — са спасылкамі на законы, указы, дырэктывы, пастановы, са згадкамі пра мажлівыя скаргі ў адміністрацыю прэзідэнта і звароты ў суд. Іншага такім не возьмеш, не напалохаеш ніякімі законамі і пагрозамі. Ну тады трэба ліслівіць, прыкідвацца дурнем, абяцаць, што будзеш пісаць толькі «пазітыўна» пра іх «орган», а калі выйдзе артыкул з «негатывам», першым патэлефанаваць таму прэсаваму сакратару ці чыноўніку і абурацца: «Не, ну паглядзіце, што робіцца! Я такое не пісала, гэта рэдактар нешта выдумаў. Яны сядзяць у тым Мінску і ўсе выдумляюць нешта, я не вінаватая, я не хацела!» І плакаць па-бабрынаму, і біць сябе ў грудзі. І абяцаць, што больш — ні-ні. Вядома, такая тактыка не доўгатэрміновая, бо вылічаць, як шпіёна. Але мы таксама не доўгачасовыя, праўда ж? І прэсавых сакратароў змяняюць часта, і чыноўнікаў. Нічога страшнага. Калі неабходная інфармацыя, дык трэба неяк яе здабываць. Розныя сродкі выкарыстоўваць. Прабірацца таемна на пасяджэнні нейкія, а на пытанні: «А вы якую арганізацыю прадстаўляеце?» — адказваць, паглядзеўшы, чаму прысвечаны сход, штосьці кшталту: «Белаграмашбудпраект». Ці кідаць так, скрозь зубы, грэбліва: «Я з інспекцыі». Канечне, гэта калі вас там асабіста не ведаюць. А калі ведаюць? Можна паспрабаваць нахабна сябе паводзіць, спасылацца на нейкага Віктара Пятровіча: «А Віктар Пятровіч мне дазволіў прысутнічаць на сходзе!»



Вось, дарэчы, гэтая фраза: «Я ад Віктара Пятровіча (Алы Раманаўны, Марыі Пятроўны)», — часта дапамагае. Спачатку трэба даведацца, як завуць (імя, імя па бацьку) начальніка таго чыноўніка, да якога вы звяртаецеся. І так тэлефануеце і кідаеце: «Мяне Дзмітрый Сямёнавіч да вас накіраваў». Гэта тады, калі трэба атрымаць аператыўны аднаразовы каментар (часта так бывае, што тэлефануеш у нейкую кантору раз у год ці нават раз у жыцці). Можа і не спрацаваць, але мне дапамагала.

Ці быў такі выпадак. Тэлефаную адной начальніцы па справе, пытаюся, яна адмаўляецца даць інфармацыю (натуральна, бо гэта чорная інфармацыя для іх органаў). Катэгарычна. Я прыкідваю, што патэлефаную ў кантору, якая трохі ніжэй па рангу за гэтую, і там нешта выб'ю. Начальніца, відаць, прачытала мае думкі і кажа: «Нават не спрабуйце тэлефанаваць у раённую інстанцыю, я не дазваляю, вам там ніхто нічога не скажа». Я тут жа, праз секунду, набіраю нумар той раённай інстанцыі і такім нудна-абыякавым голасам кажу: «Э-э-э, тут справа адна, мяне Марыя Пятроўна да вас паслала». Там здзіўляюцца, маўляў, няўжо Марыя Пятроўна паслала? «Так, — кажу, — паслала да вас». І чалавек усё мне распавёў у падрабязнасцях. А я і не падманула. Яна ж мяне сапраўды «паслала», ну не да іх, але ж «паслала». Пакуль яны там разбіраліся, матэрыял выйшаў. Калі на мяне потым сварылася тая Марыя Пятроўна, я казала: «Вой, а я падумала, што вы мяне туды паслалі, каб я там спытала». Гульня ў прыдуркаватасць часта дапамагае.

Калі вырашыў тэлефанаваць пасля вышэйшай інстанцыі ў ніжэйшую, важна не губляць ні секунды, каб не паспелі папярэдзіць. Тут такая гульня — дакладней, праца.

Неабавязкова тыкаць, што «я з недзяржаўнай прэсы», калі вы звяртаецеся да незнаёмага чыноўніка. Напрыклад, калі я сустракаюся першы раз і ў мяне пытаюцца, ці афіцыйнае ў нас выданне, спакойна кажу, што афіцыйнае, зарэгістраванае. А калі мяне ведаюць, дык... маўчу.

Па тэлефоне ў некаторых выпадках таксама не варта называць выданне (ну не любяць чыноўнікі недзяржаўную прэсу, што зробіш). Можна проста казаць: «Я журналіст, хацеў бы ведаць...». Калі пачынаюць дапытвацца (не так і часта, дарэчы), дык таксама можна не згадваць назву выдання, а адказваць так: «Інфармацыйнае агенцтва... Навіны пішам, ведаеце».

Я думаю, галоўны прынцып: «Калі хочаш пра нешта даведацца — трэба нешта ведаць». Напрыклад, адбываецца нейкае злачынства (як у Рагачове, дзе міліцыянт застрэліў дзяўчыну, ці ў Гомелі, дзе завяліся якіясьці педафілы-замежнікі). Калі вы абапіраецеся на нейкія чуткі, тэлефануеце ў «органы» і кажаце: «Я чуў, недзе быў педафіл», — можна не сумнявацца, што ніхто нічога вам не




паведаміць. А калі вы кажаце: «А што з тым педафілам 1964 года нараджэння, якога затрымалі 23 верасня ў Гомелі на вуліцы Катуніна?» — то тут карты біты, і каментар дадуць — амаль напэўна.

Яшчэ важна для пошуку інфармацыі валодаць рознымі дадатковымі навыкамі. Напрыклад, умець чытаць перакуленыя літары — і хутка. Напрыклад, прыйшоў да чыноўніка, а ён чытае важную паперу, ці на стале ляжаць дакументы нейкія — вам жа яны бачацца дагары нагамі! Ну вось, хутка прачытаў паміж размовай — і пра нешта даведаўся. А потым ужо, валодаючы той мізэрнай інфармацыяй, можаш нешта спраўдзіць яшчэ, паказваючы, што ты сам усё ведаеш.

Калі хочаш даведацца пра нешта важнае, але падазраеш, што наўрад ці атрымаеш інфармацыю, трэба паспрабаваць «усыпіць пільнасць» суразмоўцы. Напрыклад, цябе хвалюе рэзанансное забойства. Не варта адразу пачынаць гаворку пра яго і паказваць сваю зацікаўленасць. Трэба пачаць з крадзяжу курэй у вёсцы і прадэманстраваць, што цябе гэта вельмі хвалюе — проста не спіш, не ясі. А потым можна спытаць пра крадзяжы




веласіпедаў і выплату аліментаў — і так шпарка і зацікаўлена ўсё занатоўваць. І толькі пры развітанні спытацца такім сумным і абыякавым голасам: «А што там з тым жыхаром Гомеля, які забіў пяць чалавек?» Толькі голас павінен быць абсалютна абыякавым, маўляў, не варта і пытаць, так, для падтрымкі размовы. Не заўсёды, не з усімі, але і гэта працуе.

Калі вас з некім блытаюць, дык не адмаўляйцеся. Мне так адну справу далі цікавую, крымінальную, па карупцыі. Чакалі дзяржаўнага журналіста, а прыйшла я — па іншым пытанні, выпадкова. Яны не разабраліся, што я — не яна, і мне далі тую справу, я выйшла, пачытала, выпісала, што цікава, потым вярнулася, аддала і кажу абурана: «Гэта не мне. Што вы мне далі? Навошта, як вы маглі?»

У нас шмат праблемаў з, так бы мовіць, афіцыйнай інфармацыяй і тым, як яе здабыць. Цяжка, канечне, але як цікава і займальна! Проста захапляльная праца! Выраз твару, голас, інтанацыі, стыль размовы, псіхалогія, акцёрскае майстэрства! Ліслівіць, пагражаць, браць хітрасцю, «душыць сінхронна» (паводле выразу аднаго калегі)...

Дарэчы, калі б хто чытаў нашу з калегамі перапіску — нас бы адразу здалі ў міліцыю: проста нейкая інтэрнэт-сходка забойцаў-вычварэнцаў! У нядзелю каля гадзіны ночы лістуемся і абмяркоўваем, як заўтра здабыць інфармацыю ў розных канторах па адной важнай справе. «Прэсавы сакратар нам не скажа!» — плачам мы з калегам. А іншы наш калега піша ў адказ: «Мы будзем душыць Кацярыну сінхронна! Вы адразу з раніцы яе па тэлефоне душаніце, а потым мы далучымся — і таксама душанем. Не дасць нічога — пойдзем да яе і там будзем душыць, яна будзе ісці на абед — мы яе сустрэнем, толькі душыць трэба сінхронна, усім па чарзе! Мы яе давядзём, і ў яе не будзе выбару».

О, як я цябе люблю, мая ты праца. Душыць Кацю з раніцы. Потым «мусоліць» матэрыял. А яшчэ лепш — проста эйфарыя! — калі некуды паехаў, у нейкую кантору, вобразна кажучы, па насоўку, а набыў норкавае футра. І ніхто, акрамя цябе, не ведае пра гэта (пытаўся пра крадзяжы веласіпедаў, а выпадкова даведаўся, што начальніка вялікага прыхапілі на хабары). Я стаю на прыпынку і падскокваю ад нецярплівасці, ледзь не падаючы пад машыны. Потым бягу дадому, распранаюся на лесвіцы, скідаю вопратку ў вітальні на падлогу, разганяю з дарогі хатніх, сядаю за камп'ютар... Мільён, мільярд за гэтыя прыемныя, шчаслівыя хвіліны!

Ці некалькі хвілін да прэсавай канферэнцыі па футболе. Усе мітусяцца, ставяць мікрафоны на лепшыя месцы, сварацца, цягаюць шнуры тудысюды. А ты ўжо сеў на добрае месца, трымаеш нататнік і дыктафон.... Чакаеш галоўных трэнераў. О, якія прыемныя моманты! Не ведаю, чаму, але я адчуваю тады такую гармонію і еднасць з Сусветам і Космасам! Аднак праз хвіліну ты, забыўшыся на дзэн і раўнавагу, выскачыш за дзверы, як апараны, і прадыктуеш рэдактару той каментар. А потым будзеш ісці па цёмнай вуліцы і думаць пра адсутнасць ліхтароў, і пра заўтрашні суд, і пра тую жанчыну, у якой забралі кватэру, і пра выставу матылькоў, і пра нацыяналізацыю, і пра дэвальвацыю, і пра тое, што яйкі зніклі з крамаў і ацяпленне не ўключана, і пра нейкіх дзяцей невядома дзе, якіх замест навучання загналі на бульбу. А потым дойдзеш дахаты і здзівішся: «А хто вось гэтыя дзеці, чаго яны хочуць?»

Я думаю, што люблю сваю працу. І думаю, што яна адказвае мне ўзаемнасцю, падкідваючы амаль штодзень цікавых людзей з цікавымі гісторыямі.

***Фота аўтара***

# Выгодно ли государству содержать СМИ?



*Евгений Прейгерман, директор по исследованиям ОО «Дискуссионно-аналитическое сообщество "Либеральный клуб"»*

В недемократических режимах понятие «выгода» в отношении социально значимых явлений зачастую не имеет экономического измерения. Там важно не то, чтобы дебет с кредитом сошлись, а то, чтобы власть была под амбарным замком.

Такое отношение в Беларуси и к средствам массовой информации. На рупор власти денег не жалко. Было бы только из чего эти деньги давать!

Но вот когда рупор начинает барахлить, то и деньгами его не спасешь.

## Бюджетные расходы на СМИ — крупные «семечки»

Справедливости ради нужно заметить, что бюджетные расходы на СМИ в Беларуси сравнительно не такие уж и большие. Закон «О республиканском бюджете на 2013 год» выделяет на нужды средств массовой информации около 669 млрд рублей. В пересчете на евро (по курсу Национального банка в середине октября) это всего около 60 миллионов. Из них 47 млн евро будут потрачены на поддержку телевидения и радиовещания, на развитие периодической печати и издательства — 6,4 млн евро, а на «прочие вопросы в области средств массовой информации» — 7,7 млн евро.

Еще немного денег СМИ получат из небольших статей расходов бюджета 2013 года, которые связаны с прикладными исследованиями и вопросами религии.

Таким образом, если в 2013 году не будет очередной существенной девальвации белорусского рубля (которая, правда, вполне вероятна), то государственные СМИ увидят чуть-чуть больше денег налогоплательщиков, чем в предыдущие годы. В 2012 году республиканский бюджет средств массовой информации составил более 45 млн евро (по курсу на начало года). А годом ранее — около 54 млн евро.

На фоне некоторых других статей расходов белорусского бюджета отчисления на средства массовой информации выглядят «семечками», хотя и достаточно крупными. Для сравнения: на содержание органов государственной безопасности в 2013 году будет потрачено 776 млрд рублей (около 70 млн евро). На обеспечение жизнедеятельности органов внутренних дел — 4,1 трлн рублей (376 млн евро). А на финансирование хронически неэффективного сельского хозяйства из республиканского бюджета уйдет 6,8 трлн рублей (615 млн евро).

Да и один только резервный фонд президента в три раза превышает запланированные на следующий год расходы на прессу. Его объем составит 1,9 трлн рублей, или где-то 174 млн евро.

## Будут подсолнухи — будут и семечки

Однако, отмечая сравнительно небольшие объемы государственного финансирования СМИ, необходимо сделать как минимум три оговорки.

Во-первых, речь в любом случае идет о десятках миллионов евро налогоплательщиков. И даже если на фоне некоторых других статей бюджета это всего лишь крупные «семечки», то все равно возникают закономерные вопросы. Почему эти средства тратятся именно таким образом? Почему лишь отдельные издания и теле- и радиостанции имеют подушку финансовой безопасности в виде денег налогоплательщиков, которые им щедро выделяют государственные бюрократы? И почему другие такой подушки безопасности не имеют?

Во-вторых, медиарынок в Беларуси очень скромен по сравнению даже со странами-соседями. Для нашего и 60 млн евро — это громадная сумма. При низких зарплатах сотрудников и отсутствии постоянной модернизации инфраструктуры государственные СМИ такими деньгами могут покрывать значительную часть всех своих расходов.

В-третьих, если бы у белорусских властей была возможность выделять на подконтрольные им СМИ большие ресурсы, они делали бы это без особых раздумий. Так сказать, были бы подсолнухи, и семечки бы находились.

Другое дело, что бюджетный «пирог» ограничен. Белорусская экономическая модель не позволяет генерировать настолько высокие доходы, чтобы завалить СМИ и другие важные для властей сферы бесконечными потоками денег.

Поэтому руководству Беларуси приходится более реально взвешивать потребности в финансировании и расставлять приоритеты. А на шкале приоритетов, скажем, органы внутренних дел все же имеют больший вес. Ведь именно дубинка в реалиях белорусской системы зачастую является аргументом последней инстанции.

## Главное для властей — сохранять внутреннюю легитимность

При всем при этом средства массовой информации, безусловно, служат главным пропагандистским столпом существующего в стране политического режима. По крайней мере пока.

Все эти годы именно средства массовой информации, в первую очередь телевидение, объясняли рядовому гражданину, насколько родное государство его любит и лелеет. Особенно во время различных избирательных кампаний. Поэтому роль СМИ для государства поистине сакральна.

Здесь выгода не может измеряться банальными экономическими категориями: столько-то вложил — столько-то получил на выходе.

Повторюсь: государство, имей оно такую возможность, с радостью вбухивало бы в лояльные СМИ на несколько порядков большие суммы. Потому что государственные средства массовой информации обеспечивают самое главное — поддержание внутренней легитимности власти.

А именно благодаря внутренней легитимности, т. е. принятию большинством населения страны существующих в ней политических реалий, недемократическая власть может позволить себе вызывающее поведение на международной арене и репрессии дома. Поэтому за внутреннюю легитимность власти готовы платить.

## Застой и упадок

Правда, в последнее время все более очевидным становится застой в СМИ, плотненько сидящих на бюджетном финансировании. Для того чтобы в этом убедиться, достаточно периодически пролистывать ведущие государственные газеты и посматривать главные телеканалы страны.

Завязнув в тотальном монополизме, бюрократии и отсутствии свободы слова, они с каждым годом становятся все менее информативными и оригинальными. Их популярность среди белорусской аудитории, пожалуй, наименьшая за последние годы.

Так, по данным Лаборатории аксиометрических исследований «НОВАК», на которые в своей публикации «Все есть число» на портале Mediakritika.by ссылается Эдуард Мельников, абсолютным лидером зрительских предпочтений на протяжении нескольких лет в белорусском телепространстве является ОНТ. Его среднесуточная доля от общего числа зрителей равна почти 25 %. На втором месте — НТВ-Беларусь (около 18 %), на третьем — РТР-Беларусь (почти 14 %), на четвертом — Беларусь-2 (менее 10 %), на пятом — Беларусь-1 (менее 8 %). СТВ находится на последнем месте с менее чем 5 %.

Из приведенных данных хорошо видно, что популярностью у белорусских телезрителей пользуются те каналы, которые большей частью ретранслируют программы российских каналов (ОРТ, НТВ, РТР). Чисто белорусские каналы являются аутсайдерами в списке предпочтений белорусов. При этом из «чисто белорусских» больше всего смотрят Беларусь-2, в эфире которого широко представлена спортивная тематика.

Т. е. граждане Беларуси преимущественно выбирают развлекательные программы и телесериалы российского производства. А из белорусского предпочитают в лучшем случае спорт (хотя во время трансляций английской футбольной Премьер-лиги на телеканале Беларусь-2 наша страна была представлена только минскими комментаторами).

Фактически эти данные свидетельствуют и о том, что поддерживаемые средствами налогоплательщиков госСМИ перестают выполнять свою главную задачу с точки зрения государства — функцию эффективного пиара популярных и не очень популярных решений властей.

## Наше все — холдинги. Теперь и в СМИ

Разумеется, что сами власти не могут не реагировать на очевидную деградацию подконтрольных им средств массовой информации. Они позволят лояльным СМИ все, но только не срыв задач государственной пропаганды.

Одним из способов преодолеть застой и неэффективность государственных СМИ руководство Беларуси видит учреждение медиахолдингов. В сентябре министр информации Олег Пролесковский заявил, что ведется работа по созданию общественно-политического издательского дома, куда войдут пять главных газет страны: «Советская Белоруссия», «Народная газета», «Рэспубліка», «Белорусская нива» и «Знамя юности». Ранее также сообщалось о создании медиахолдинга культурной направленности.

В целом тема медиахолдингов является частью тренда по холдингизации всей белорусской экономики. Официальный мотив — провести модернизацию и повысить эффективность отраслей экономики. Сделать это предлагается за счет присоединения отстающих предприятий к более успешным и передачи последним функций управления всем объединенным производственным комплексом.

В перспективности холдинговой модели для экономики Беларуси есть большие сомнения. В частности, результатом может стать еще большая монополизация различных секторов и, как следствие, консервация неконкурентоспособных производств.

Ситуация же с медиахолдингами еще более пессимистичная. Ведь в конечном итоге ни измененная организационная форма, ни еще большие бюджетные вливания не способны дать СМИ самое главное — свободу слова.

Так что белорусским властям не остается ничего, кроме как продолжать подпитывать государственные СМИ деньгами налогоплательщиков. И вопрос здесь не в выгоде, а в элементарной безальтернативности.

# Телевидение как источник ложной информации





*Леонид МИХЕЙЧИКОВ*

**Телевидение еще задолго до интернета стало одним из ведущих средств массовой информации. Как и любое СМИ, голубой экран не только предоставляет совокупность определенных актуальных сведений, информирует о ситуации в мире, но и комментирует как сиюминутные события, так и прошедшие, ставшие историей.**

И чем объективнее, всестороннее и полнее подаются новости, анализ и обобщение уже свершившегося, тем выше доверие к телевизионным передачам, тем интенсивнее общение с «ящиком». Естественно, телевидение как СМИ включает в себя достаточно широкий, постоянно растущий перечень различных телеканалов. При наличии определенных технических возможностей и личного желания телезритель может смотреть каналы, передачи и программы, которые отвечают его интересам и потребностям. Поэтому общее количество телезрителей в нашей стране (рис. 1) — не показатель того, что информационный продукт, предлагаемый конкретными телеканалами, находит отклик в сердцах и умах белорусских граждан.

В Беларуси практически все взрослые граждане смотрят телевидение. И цифра эта колеблется в пределах 96 %. Правда, во время президентских выборов (декабрь 2010 года) телепрограммы не просматривали, как говорится, только ленивые и слепые.

Небывалый технический прогресс значительно расширил возможности приема программ и передач. Ответы на вопрос: **«Какой тип телевещания вы предпочли?»** (рис. 2) — показали, что большинство (54 %) респондентов пользуются кабельным телевидением. Этот способ просмотра программ и телепередач для зрителей более удобен. И качество «картинки» — лучше, и количество каналов — значительно больше.




*Рис. 1. Количество телезрителей в Беларуси (%)*




*Рис. 2. Предпочитаемые в Беларуси типы телевещания (%; предлагалось выбрать несколько ответов)*

Недостаток — выбор каналов, точнее, их отбор уже сделан теми, кто владеет «кабелем». Ведь кабельное телевидение, как и эфирное, подвержено цензуре.

Господствовавшее ранее в Беларуси эфирное телевидение значительно уступает свои позиции. Лишь немногим более трети — 39 % — граждан страны пользуются квартирными или коллективными антеннами. Среди них преобладают женщины, каждый второй — в возрасте 50 лет и старше. 40 % — это работники сельского хозяйства и пенсионеры. И чуть ли не половина — 43 % — жители села. Возможности технического прогресса в полной мере еще не дошли до белорусской глубинки. Это касается кабельного телевидения, но не спутникового. В последнем случае простор для личной инициативы не ограничен. Можно просматривать через спутник как платные, так и бесплатные телеканалы. Можно установить одну, две и более «тарелок».

В ходе исследования каждый пятый респондент указал, что для просмотра программ и передач телевидения пользуется спутниковой «тарелкой» (22 %). Цифра эта не только стабильна для Беларуси, но и имеет тенденцию к увеличению. Среди пользователей спутникового телевидения три четверти — люди в возрасте 18–49 лет (75 %). Более четверти — лица с высшим образованием (29 %). В профессиональном плане здесь более заметно представлены работники творческих профессий и госслужащие, предприниматели и студенты. Чуть ли не каждый второй (43 %) среди них — житель села или небольшого города (с населением менее 50 тыс.).

Респонденты, пользующиеся спутниковым телевидением, могут более объективно судить о качестве программ как государственного телевидения Беларуси, так и иных, условно независимых, телеканалов, избежавших «редактирования» со стороны чиновников, так называемых идеологов.

В декабре 2011 года гражданам, телезрителям Беларуси предлагалось ответить на вопрос: **«В какой степени вы доверяете программам государственного телевидения?»** (рис. 3).




*Рис. 3. Уровень доверия программам государственного телевидения* (%; предлагалось выбрать один ответ)*

* Социологическое исследование проведено 9–20 декабря 2011 года. Метод опроса — интервьюирование-анкетирование жителей Республики Беларусь 18 лет и старше. По пропорционально-квотной выборке опрошено полторы тысячи человек. Контролируемые параметры выборки — место проживания, тип населенного пункта, пол, возраст, образование. Ошибка репрезентативности не превышает 1,2 %.

Относительное большинство — 47 % респондентов — указали, что государственному телевидению доверяют. Практически такое же количество — 43 % опрошенных — не доверяют ему. И каждый десятый респондент (10 %) затруднился высказать свое отношение по этому вопросу. Т. е. государственному телевидению доверяют менее половины граждан Беларуси.

О полном доверии телевидению заявило 12 % зрителей, а категорический ответ «не доверяю» дали 14 % респондентов. И две трети — 64 % опрошенных горожан и сельчан — относятся к программам и передачам государственного телевидения с известной долей скептицизма.

Среди доверяющих передачам государственного телевидения преобладают женщины, люди 50 лет и старше. Значительную часть этих телезрителей составляют пенсионеры.

Контингент зрителей, не доверяющих официальному телевидению, представлен в большей степени мужчинами, людьми до 50 лет, рабочими и инженерно-техническими специалистами, представителями творческих профессий и предпринимателями, студентами.

В ходе республиканского зондажа общественного мнения, проведенного в мае 2012 года, жителям Беларуси был задан вопрос: **«Как бы вы охарактеризовали свое отношение к нынешнему белорусскому телевидению?»** Им предлагалось выбрать из заранее сформулированных ответов (рис. 4).

Большинство — 51 % опрошенных граждан — выбрали положительные суждения о белорусском телевидении. При этом более трети — 36 % респондентов — указали, что из *«телепередач можно извлечь много полезной и объективной информации о событиях в мире»*. При этом 15 % горожан и сельчан придерживаются мнения, что *«телевидение дает в целом полную и объективную картину происходящих событий»*.

Оба этих суждения в большей степени распространены среди женщин, людей в возрасте 50 лет и старше, лиц со средним и ниже уровнем образования. В профессиональном плане такого мнения придерживаются преимущественно рабочие и крестьяне, пенсионеры и военнослужащие. Около половины среди них — жители сел и небольших городков Беларуси.

Около трети — 35 % опрошенных граждан страны — придерживаются негативного мнения о белорусском телевидении. Например, 17 % респондентов считают, что программы и передачи




*Рис. 4. Мнения о нынешнем белорусском телевидении (%; предлагалось выбрать один ответ)*




***Рис. 5. Степень доверия передачам телеканала «Белсат» (%; предлагалось выбрать один ответ)***

белорусского голубого экрана *«дают убогое и искаженное представление о событиях в мире»*. И примерно столько же ответивших на анкету горожан и сельчан уверены, что белорусское телевидение *«дает ложное представление о событиях в мире, оно используется, чтобы манипулировать сознанием людей»* (18 %).

Среди разделяющих подобные суждения о белорусском телевидении более половины составляют мужчины, люди в возрасте 18–49 лет (73 %). Каждый четвертый — человек с высшим образованием. В профессиональном плане это инженерно-технические работники и представители творческих профессий, предприниматели и студенты. Каждый второй респондент, разделяющий негативные суждения о белорусском телевидении, проживает в Минске или в областном центре Беларуси.

Каждый седьмой респондент (14 %) затруднился ответить на предложенный вопрос относительно белорусского телевидения.

Как отмечалось выше (рис. 2), 22 % телезрителей Беларуси владеют спутниковой «тарелкой». И многие из них не только прекрасно осведомлены о существовании, но и просматривают передачи такого телеканала, как «Белсат» («белорусский сателлитовый»). Этим зрителям предлагалось ответить на вопрос: **«В какой мере вы доверяете передачам телеканала “Белсат”?»** (рис. 5). Подавляющее большинство — 72 % респондентов — доверяют программам канала «Белсат». При этом 12 % выбрали ответ «полностью доверяю», а 60 % — «скорее доверяю». Среди лиц, в той или иной мере доверяющих передачам «Белсата», преобладают мужчины, люди в возрасте 18–49 лет, лица с высшим образованием, инженерно-технические работники и представители творческих профессий, предприниматели и студенты, жители областных центров и городов с населением менее 50 тыс. человек, жители села.

В той или иной мере не доверяют телеканалу «Белсат» только 9 % респондентов. И лишь 3 % высказали полное недоверие передачам белорусского сателлитового канала. Каждый пятый телезритель (19 %) затруднился ответить на предложенный вопрос.

Нельзя не отметить заметного различия в уровне доверия каналу «Белсат» и программам белорусского государственного телевидения. 72 % респондентов выказали доверие «Белсату» (бесплатному телеканалу), и 47 % — передачам государственного телевидения, в основном дотируемого из бюджета, в том числе и за счет наших с вами налогов.

Итак, голубой экран может быть как правдивым, так и лживым. Эта общеизвестная истина не нова. Как очевидно и то, что разные телеканалы, передачи и программы пользуются различным уровнем доверия и уважения зрителей.

«Новизна» лишь в том, что доверие налогоплательщиков к государственному телевидению стремительно приближается к уровню «плинтуса». А ведь было время (и не так уж давно), когда передачам БТ верили не только пенсионеры с базовым и ниже уровнем образования.



# Да Севярынца нават «Абама» прыязджаў!

У вёску Куплін Пружанскага раёна БАЖаўцы чарговы раз выправіліся ў Міжнародны дзень салідарнасці журналістаў. Бо калега па прафцэху — публіцыст і палітык Павел Севярынец, паводле рашэння суда ператвораны ў «хіміка» за ўдзел у акцыі ў дзень прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года, менавіта там другі год праводзіць і святы, і будні.

## Побыт

— Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу размяшчаецца над былым савецкім бункерам — цэнтрам сувязі краін Варшаўскай дамовы. Пасля ліквідацыі вайсковай часткі ўваходы ў падзямелле былі старанна замураваныя і засыпаныя зямлёю. Наверсе арганізаваліся фермерскія гаспадаркі, палеткі ды так званая камендатура — для тых, хто адбывае пакаранне, — распавядае Севярынец.

Увесь сэнс жыцця «хімікаў» — гэта пошукі і адсочванне спіртнога. Прычым, колькі яго тут закапана навокал, ніхто не ведае: у лепшых традыцыях беларускіх партызан, ідучы з працы, зняволеныя імкнуцца дабыць дзе-небудзь бутэлечку-другую, выпіць ці пакінуць дзесьці непадалёк у карчах пра запас.

Міліцыянты ж падсякаюць, дзе гэтыя заначкі ёсць. Прычым не вымаюць іх з зямлі, а робяць засады і пільнуюць. Таму ходзіць-доўжыцца дэтэктыўная гульня: пранесці, напіцца, ды каб яшчэ міліцыянты не здагадаліся. Дарэчы, людзі на Берасцейшчыне п’юць альбо віно, альбо гарэлку. «Глушыць» тэхнічны спірт, як у Малым Сітне, тут лічыцца апошняй справай.

— «Хімікі» працуюць у вакольных мясцовых гаспадарках, а асабіста я — у мясцовага фермера-прыватніка на складзе, — гаворыць Павел.

Склад вялікі, самы вялікі ў Пружанскім раёне — 400 квадратных метраў, дзе захоўваюцца 4300 пазіцый: запчасткі, фарбы, алей, гума ўсялякая. Паўлава задача — выдаваць калгасам усё гэта, калі запатрабуецца. Самы прыбытковы на складзе час, калі ў Пружанах праходзіць які-небудзь семінар ці афіцыйнае свята — усе пачынаюць падфарбоўваць платы, рамантаваць тэхніку і ўсё такое.

## Заробак

Па словах Севярынца, заробак у 1,5–2 мільёны рублёў на Берасцейшчыне лічыцца вялікім.

— Але ж і адпрацаваць яго трэба. У мяне на складзе атрымліваецца недзе каля мільёна, можа, крыху меней. Я лічуся падсобным рабочым, хоць выконваю функцыю кладаўшчыка ці нават таваразнаўцы. Да таго ж я знаходжуся ў асаблівым становішчы — працую з 8 да 17 гадзін, з выхаднымі ў суботу і нядзелю. У разуменні кіраўніцтва гэта не праца, а лёгкая прагулка, — распавядае Севярынец.

Усе астатнія «хімікі» працуюць сем дзён у тыдзень, у крайнім выпадку — шэсць (калі баптыст і, згодна з верай, у нядзелю працаваць не можаш). Службоўцы з камендатуры таксама маюць напружаны графік: выходзяць а 6-й, а вяртаюцца дамоў увечары а 8-й. Маюць час хіба прыгатаваць ежу, паглядзець нейкі мульцік і зваліцца на ложак — больш сіл няма.

«Хімікі» не глядзяць ніякіх праграмаў па тэлевізіі. Самыя хадавыя фільмы — мульцікі і

расійскія серыялы пра міліцыянтаў. Толькі некалькі разоў Севярынцу ўдавалася «прабіцца» на Лігу чэмпіёнаў паглядзець ці на БАТЭ.

— Народ далёкі ад усяго: нейкія маленькія радасці, свае беды, і ўсё на гэтым, — гаворыць Павел.

## Настроі

На складзе ў асноўным бываюць інжынеры, кіраўнікі гаспадарак — адным словам, мясцовая інтэлігенцыя. Многія, па звестках Паўла, глядзяць «Белсат», слухаюць «варожыя галасы» і адпаведна настроеныя праз гэта.

Найбольшую ўвагу людзей прыцягвае Пётр Пракаповіч, бо той выхадзец з пружанскага краю. Кажуць, ён увесь час «накачвае» грошы ў мясцовыя калгасы за кошт сваіх сувязяў у сталіцы. З некаторых калгасаў на «Севярынцаў» склад прыязджаюць затаварвацца нават на інкасатарскіх браневіках, спісаных з Нацбанка.

— Людзі трымаюць дулю ў кішэні, асабліва пасля мінулагодняй дэвальвацыі. Год таму, калі бахнуў крызіс, у людзей усё абясцэнілася. Абмеркаванне таго, хто як пагарэў і хто як з гэтага выкручваўся, — дагэтуль адна з галоўных тэм. Усе кажуць, што эканамічны цуд ляснуў, — дзеліцца назіраннямі Севярынец.

Заробкі ў людзей вельмі маленькія: галоўны інжынер, напрыклад, які працуе цэлы тыдзень па 12 гадзін штодня, атрымлівае два мільёны. Мясцовыя жыхары імкнуцца зарабляць на кантрабандзе ў Польшчу і Украіну. Да таго ж тут былы вайсковы гарадок пад нагамі: бункеры, кабелі сувязі. Усе хочуць нешта выкапаць ды здаць.

— Трымаецца ўсё за кошт пракаповіцкіх калгасаў, грошы з якіх «размазваюцца» па ўсім Пружанскім раёне, — зазначыў Севярынец.

## «Абама» ды ідэалагічная груша

— Неяк прыязджаў да мяне першы сакратар амбасады ЗША ў Беларусі Крыстафер Паніка. Тады я першы раз бачыў на тварах усіх міліцыянтаў літаральна галівудскія ўсмешкі. Карціна такая: усе сустракаюць амерыканскага пасла. Ён, сапраўды трошкі смуглаваты, выходзіць з уласнага джыпа, а я ў гэты час у дзяжурнай частцы афармляю неабходныя паперы. І міліцыянты ўсе ў адзін голас: «О, Абама да Севярынца ідзе!» «Абама» праходзіць у дзяжурную частку, працягвае пашпарт, і міліцыянты ліхаманкава пачынаюць шукаць прапіску. Ну як гэта так, трэба ж адзначыць прапіску, у журнале ёсць адпаведная графа! Пачынаюць гартаць: штат Канектыкут, кактусы нейкія, дзе ж прапіска?! У рэшце рэшт усе «хімікі» пасля гэтага візіту хадзілі і прасілі амерыканскую ежу: гамбургераў нейкіх амерыканцы прывезлі, суп-пюрэ, буцікаў маленькіх. Уся камендатура каштавала, але сустрэча была такая — баявая. Праз месяц пасля гэтага наш ідэолаг прыносіць нешта ў камендатуру і хавае трошкі ад мяне. «Георгіч, што вы там несяце ўжо?» — «А так, нічога». Гляджу: баксёрская груша вялікая ў колерах амерыканскага сцяга. Пытаю: «А з якой мэтай выбралі такія колеры?» — «Ну сам разумееш, “ідзеалагічэскі ўраг!”» Аказалася, што начальства вырашыла: трэба выхоўваць патрыятызм сярод «хімікаў» пасля прыезду амерыканцаў.

## Авечкі паўднёваафрыканскага фермера

— Спачатку на месцы былога вайсковага гарадка была вялікая гаспадарка, потым зямлю параздавалі. Пры пад’ездзе да камендатуры, напрыклад, можна ўбачыць гаспадарку фермера Тайса з Паўднёвай Афрыкі. Ён — белы сам, баптыст, напэўна, самы тут моцны. Да таго ж трымае дзве кавярні ў Пружанах. Па пашпарце ён, здаецца, Мат Тайс Тэро, але ўсе яго называюць Тайсам альбо Тайсанам нават, — распавядае Севярынец.

Тайс прыехаў у пачатку 1990-х з рэлігійнай місіяй у былы Савецкі Саюз ды так тут і застаўся.

— Цяпер дзеці тут у яго. У школу ён іх не аддае, сам вучыць, бо ў школе — дзяржаўная ідэалогія і тэорыя эвалюцыі. Мы з ім увесь час абмяркоўваем, як прыватную адукацыю ўзаконіць у краіне падчас пераменаў, — пасміхаецца Севярынец.

Наконт гэтага Тайса ёсць цікавая гісторыя. Калі Аляксандр Лукашэнка заявіў, што трэба ў Беларусі вырошчваць авечак, усе ветэрынары, старшыні калгасаў і іншыя адказныя асобы палезлі ў інтэрнэт шукаць, у каго ёсць гэтыя авечкі. А там, у сувязі з тым, што гэта даволі вядомы экстравагантны выпадак — фермер, які прыехаў з Паўднёвай Афрыкі, інтэрнэт у першую чаргу выдае менавіта яго.

— І нават да мяне некаторыя званілі, запытвалі кантакты гэтага Тайса. Я пісаў пра яго, ён таксама закупаецца ў нас на складзе, — узгадвае Севярынец.

## Амністыя

Пасля амністыі «хімікаў» паменела: да яе было больш за сто, зараз — каля шасцідзесяці. Сістэма вызвалення па амністыі, як кажуць людзі дасведчаныя, заснаваная на асабістым стаўленні адміністрацыі да кожнага зняволенага. Агромністае поле для злоўжыванняў: камусьці зафіксавалі парушэнне, камусьці — не. Некаму зафіксавалі ўжо



пяць парушэнняў — ён яшчэ «на хіміі», хтосьці пасля двух ужо едзе ў зону. Усё гэта камбінуецца з супрацоўніцтвам з адміністрацыяй: хто «стукае», а хто не. «Хімікі» ведаюць, хто пры такіх камбінацыях апынуўся на волі.

— На атмасферы, праўда, гэта ніяк не адбілася, бо і без гэтага было ціха. Блатных ці прыблатнёных вычысцілі адсюль адразу пасля майго прыезду, — кажа Севярынец.

Засталіся толькі тыя, хто проста адбывае свой тэрмін. Хтосьці можа па-партызанску напіцца цішком — маўляў, вось мая барацьба, мая жыццёвая пазіцыя. У адрозненне ад Малога Сітна, тут рэжым больш абмежаваны: на Віцебшчыне магчыма было перасоўвацца ў межах вёскі, тут — выхад на вуліцу толькі з дазволу міліцыянтаў. Раз на тыдзень можна ў царкву ці ў лазню, бо ў самой камендатуры гарачай вады няма.

Паплечнікі па аргкамітэце БХД прывезлі на Паўлаву «хімію» бойлер, але адміністрацыя пабаялася яго ставіць. Маўляў, як гэта, бойлер ад апазіцыі паставіць у камендатуру — палітычна няправільна! Так і ляжыць у суседа Тайса шведскі бойлер на 300 літраў.

— Каб толькі не ўзгадвалі хрысціянскіх дэмакратаў добрым словам. Калі я прыехаў сюды год таму, мяне міліцыянты папярэджвалі: «Павел Канстанцінавіч, самае галоўнае — ніякай агітацыі!» Разгар валютнага крызісу, грошай няма ні ў кога — якая яшчэ агітацыя патрэбная? — узгадвае Севярынец.

## Бібліятэка

Бібліятэка ў спецкамендатуры — каля тысячы тамоў, дый увесь час кнігі яшчэ прывозяць людзі. Павел кажа, што народ кнігі бярэ. Але для трох патрэбаў: чытаць, лісткі выдзіраць у прыбіральні ды рабіць цвёрдую вокладку для пропускаў, якія ўвесь час губляюцца.

— Я, калі Новы Запавет у прыбіральні заўважыў, лютаваў: «Усе да мяне! Калі ёсць патрэба, у мяне туалетнай паперы цэлы склад, я вам выдам!» Ніхто не заходзіць, але рваць Святое Пісанне перасталі, — распавядае Севярынец.

Самому Паўлу ёсць што чытаць. Цікавіцца хрысціянскай літаратурай: праваслаўнай, каталіцкай, пратэстанцкай. Шмат сябры прывозяць. Напрыканцы лета Андрэй Дынько прывёз пятнаццаць нумароў «ARCHE Пачатак» — хапае.

Павел прызнаецца, што спачатку, калі яго прывезлі ў камендатуру, яму далі мянушку «пісьменнік». Цяпер клічуць «Павал Канстанцінавіч».

— Людзі ўспрымаюць мяне нармальна. Склаўся пэўны вобраз: ездзіць у царкву, вернік, не п’е, размаўляе па-беларуску, мае актыўную грамадзянскую пазіцыю. Спадзяюся, пасля мяне такіх людзей тут будзе болей, — дадае на развітанне Павел Севярынец.

*Гутарыў Барыс Гарэцкі*
*Фота аўтара*



Яна — з «ворагаў народу». Але сваёй шчырасцю, прынцыповасцю і прагай справядлівасці Яніна Аляксандраўна чамусьці нагадала мне той самы ідэальны вобраз камуніста, да якога самі бальшавікі крочылі-крочылі, ды так і не дакрочылі.

# Яніна Ліхадзіеўская: *«Што з нас возьмеш, калі мы — палонныя?»*

«Гаварыце гучней, я дрэнна чую... Пагутарыць са мной? Можна, але не зараз. Мне трэба прыбраць у кватэры. Пасля дзвюх прыходзьце».

Розных бабулек у якасці гераінь я вельмі люблю. З імі атрымліваюцца цікавыя рэпартажы і інтэрв'ю, яны не надта задумваюцца, як хто на іх словы адрэагуе, і вельмі дасціпна адказваюць на пытанні. Часам абрагочашся, пакуль змантуеш сюжэт для радыё. Асабліва калі гераіні размаўляюць на дыялекце.

Але ў выпадку з Янінай Ліхадзіеўскай весялосці не чакалася. У гэтай 89-гадовай бабулі я мелася распытаць пра яе лагернае мінулае. Найбольшую рэпарцёрскую цікавасць выклікаў факт, што Ліхадзіеўская атрымала свае 10 гадоў за ўдзел у тым самым неадназначным Саюзе беларускай моладзі, які існаваў на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі.

## «Пачытайце Салжаніцына...»

Яніна Аляксандраўна аказалася маленькай, худзенькай, але вельмі жвавай жанчынай з няўрымслівым характарам. У дзве гадзіны я знайшла яе на шпацыры ў дворыку, і яна рашуча адмовілася ад дапамогі занесці яе складанае крэсла ў дом. «Я ўжо сябе, канешне, раздражняю. Там рассыпеш, там разальеш... Не слухаецца ўжо цела». Гэтыя словы гаворыць тая, што тут жа ставіць крэсла ля кухоннай шафы і збіраецца ўжо лезці за прыборамі ледзь не пад столь. Я неяк паспяваю падбегчы і перахапіць ініцыятыву.

«Дык пра што вы хацелі пагутарыць? Пра лагер? Магу сказаць вам адно: пачытайце Салжаніцына і будзеце ведаць пра лагер усё. Я б таксама пачытала, каб там не была».

Больш я не задавала Яніне Аляксандраўне ніводнага пытання. З дзіўнай паслядоўнасцю, лагічнасцю жанчына паўтары гадзіны распавядала мне пра «вялікі лагер» пад назвай Савецкі Саюз, пра шчаслівае дзяцінства ў ім і ўсё, што з таго шчаслівага дзяцінства вынікала.

Гісторыя пачыналася ў эпоху калектывізацыі.

## «Тады яшчэ быў горад Менск...»

«Нарадзілася я пры Польшчы, за 60 кіламетраў ад Мінска, пад Мар'інай Горкай. Дзяцінства маё там прайшло да 7 гадоў. Я не памятаю, якое там было дзяцінства. Напэўна, як ва ўсіх.

А вось з 8 гадоў, калі прыйшлі да нас Саветы, я гэтае дзяцінства запомніла. Такі быў час — усе чакалі Саветаў. Думалі, што спусціцца нехта з неба і дасць нам такое жыццё, што будзем мы, як сыр у масле, плаваць.

Прыйшлі яны. А ў майго бацькі брат служыў у польскай арміі, ён адступіў, калі Саветы займалі тэрыторыю

Беларусі. Тады яшчэ быў горад Менск. Мой дзед па маме быў у Менску начальнікам вялікім.

Бацькаў брат быў нежанаты і адступіў, пераехаў у Польшчу. А ў бацькі трое дзяцей, стары наш дзед (ляснічы ў пана Катовіча) і паралізаваная бабуля. Таму бацька і застаўся на хутары. Гаспадарка ў нас была. Каровы, конь — ну вы самі ведаеце, што бывае ў гаспадарцы, каб селянін жыў. І каб краіна жыла.

Бацьку забралі ў 1929-м. Мы нават не ведалі, за што. На тры гады выслалі ў Архангельскую вобласць, горад Волагда. Маці засталася з трыма дзецьмі, малодшаму — паўтара года.

Неяк да нас прыехала маладая дама ў скураной тужурцы, з пісталетам, на добрым кані. І заявіла, што ў нас тры дні, каб сабрацца да бацькі ў Волагду. Да нас прыставілі канвой, каб з хлявоў нічога нікуды не дзелася. Тады ж яшчэ не было калектывізацыі.

З'ехаліся ўсе родныя. Нехта шые, нехта вяжа. Мы, дзеці, не маглі зразумець, што вакол адбываецца. Сядзім на печы і назіраем, як па хаце носіцца мама, плача, крычыць, рукамі за галаву хапаецца. Тут маме брат яе гаворыць: «Аня, едзь хутчэй у Менск, прыехала Крупская». Мама паехала і дабілася, каб нас пакінулі.

Праз тры дні прыязджае тая ж дама і гаворыць: «Развязвайце свае вузлы». Мы, дзеці, нават крыху расчараваліся. Мы ж, наадварот, радаваліся, што кудысьці едзем.

І гаспадарку нам таксама пакінулі».

## «У нас быў сусед...»

«Праз тры з паловай гады вярнуўся бацька. Мы, дзеці, на яго ўжо забыліся. Гулялі ў двары ды пабачылі, што нейкі дзядзька сядзіць пад каштанам ды плача, на нас гледзячы.

У нас быў сусед, які раней вельмі чакаў Саветаў. І майго бацьку ён не палюбіў, бо той быў католік і за яго багацейшы. Мой бацька працуе, а той ляжыць ды чакае Саветаў. І калі яны прыйшлі, сусед ім і сказаў пра бацькавага брата. Аказваецца, за гэта майго бацьку і пасадзілі — абвінавацілі ў шпіянажы на карысць Польшчы. Гэта быў першы данос.

Другі данос быў, калі бацька вярнуўся. У нас ва ўсю калектывізацыя. Мы толькі бачым, як ноччу вывозяць адных, другіх... Даходзіць чарга і да нас. Прыходзяць: «Усю гаспадарку аддавайце ў калгас і самі ўступайце». Бацька, напэўна, адмовіўся.

Што ж... Яны прыязджаюць, зноў ставяць каравул, усё за дзень вывозяць і гавораць, каб да вечара духу нашага не было. Дзед пытае: «А куды ж мне і дзецям ісці?» «Ну ты ж быў ляснічым у пана. Да ваўкоў іх і вядзі».

Мы пайшлі ў лес, і адтуль нас забралі сваякі ды адвезлі да бабулі.

Бацька знайшоў працу ў Асіповічах, і мы туды перабраліся. Здымалі невялікую частку доміка. У 1937 годзе другі раз забіраюць бацьку. Прыйшлі ноччу, мама нас нават не будзіла. Зноў не ведалі, за што і куды.

Мама ўладкавалася на працу прыбіральшчыцай на бойні. Але мы ж — сям'я ворага народу. Прыходзіць аднойчы мама з працы, а ў нас акно выстаўленае і частка сцяны зрэзаная. І мы сядзім усе ўтраіх, як вераб'і, адно да аднаго прыціскаемся. Было холадна, кастрычнік на дварэ. Мама адразу здагадалася, што гаспадар дома гэта зрабіў для таго, каб мы з'ехалі. Мама ў роспачы тады сказала: «Я вас аддам дзяржаве, а сама скончу жыццё самагубствам!» Мы пачалі крычаць, і нас пашкадавалі суседзі-габрэі, забралі да сябе. У іх была кантора, маму ўзялі прыбіральшчыцай. Там у калідоры мы і цясніліся. Без усялякай мэблі. З рэчаў толькі вопратка і штосьці з пасцельнай бялізны.

Дзяцінства, канешне... Бачыце самі. Бацька сядзіць, раскулачаныя, у школе на нас глядзяць па-іншаму. Мы бачым, як апранаюцца, што ядуць, а ў нас такога няма. Але мы толькі і чуем, што ў нас самае шчаслівае дзяцінства, што «нет больше страны, где так вольно дышится человеку». Я гэта добра запомніла.

Школьныя святы. Усё лепшае апранаем і нясём «бацьку роднага». Мы глядзім на яго і крычым: «Дзякуй табе за нашае шчаслівае дзяцінства!» Мы думалі, што і на самай справе мы такія шчаслівыя, і краіны другой такой няма, як наша дзяржава.

Вось у гэтай краіне я заканчваю 7 класаў і паступаю ў школу медсясцёр. Думала, павучуся і, калі ўсё будзе добра, паеду паступаць у Мінск. Вельмі хацела быць доктарам».

## Наляцелі «месершміты»

«Я закончыла першы курс, калі пачалася вайна. Якраз здала апошні экзамен. Людзі бегаюць, нешта купляюць... У нас грошай няма, таму мы проста чакаем. Праз месяц аб'явілі эвакуацыю ў вёску.

Там нас ніхто не корміць, бо каму мы патрэбныя ў той вёсцы? У нас жа нічога няма, каб мяняць на ежу. Тры тыдні мы сядзелі ў нейкім хляве, пасля мама кажа: «Дзеткі, трэба ісці ў горад».

Ідзём — а там ужо немцы. Невялікая рэчка, яны там купаюцца, мыюцца. Мама непакоіцца: «Як жа міма іх прайсці?» Вельмі за нас хвалявалася з сястрой. Яны нас і напраўду перапынілі, але распыталі, куды ідзём, далі шакаладку і адпусцілі.

...І вось нас забіраюць у Германію. У сям'і дзве дзяўчыны, значыць, адну трэба забраць. Забралі сястру. Яна там зрабіла сабе, калі па-лагернаму казаць, «мастырку» — раздрапала нагу і чымсьці памазала. Яе камісавалі і адправілі дадому. Забіраюць мяне».

## Саюз беларускай моладзі

«Я ўжо чакаю адпраўкі, але тут прыходзіць чалавек і выклікае трох дзяўчат: мяне, Ядвігу Сушынскую і Вольгу (не памятаю прозвішча) — у Мінск на курсы. Мы не ведалі, што за курсы, нам ніхто не казаў. «А калі не паедзеце, адправім вас заўтра ў Германію».

Я маме ўсё пераказала. Мама кажа: «Дачушка! Калі цябе адправяць у Германію, мы цябе ўжо ніколі не ўбачым. А калі паедзеш на курсы — будзеш жывая».

Еду на курсы.

